ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і Мастацтва

ВЫДАЕЦЦА З 1932 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

№ 5 (2636) • Пятніца, 2 лютага 1973 года • Цана 8 кап.

## НЕЎМІРУЧЫ ПОДЗВІГ



Радзіма памятае герояў...

*РОЎНА ТРЫ дзесяцігоддзі аддзяляюць нас сёння ад таго векапомнага дня, калі перамогай гераічнай Савецкай Арміі, перамогай вялікага народа нашага завяршылася найвялікшая ў гісторыі чалавецтва бітва — бітва на Волзе.*

*Дзвесце дзён і начэй працягвалася бяспрыкладнае адзінаборства савецкіх воінаў з азвярэлымі фашыстамі, якія рваліся да старадаўняй рускай ракі — сімвала Расіі. Дзвесце сутак стаялі насмерць мужныя абаронцы горада, дэвізам якіх было: «Ні кроку назад! За Волгай для нас зямлі няма!»*

*Сталінград абаранялі сыны і дочкі ўсіх народаў неабсяжнай Краіны Саветаў. Адным са шматлікіх прыкладаў гэтага нязломнага адзінства быў легендарны гарнізон «дома Паўлава». У марных спробах захапіць руіны гэтага аднаго дома гітлераўцы панеслі большыя страты, чым пры ўзяцці Парыжа.*

*Разгром гітлераўскай арміі быў трыумфам нашага народа, трыумфам палітыкі Камуністычнай партыі. Мы выстаялі ў самым грандыёзным змаганні. І фашысцкія орды пакаціліся назад.*

*...А вечны агонь славы герояў Сталінградскай бітвы і сёння гарыць у нашых сэрцах.*

**Артыкул П. Прыходзькі, прысвечаны слаўнай гадавіне, змешчаны на 2-й стар.**



Сцяна на Мамаевым кургане.



Скульптурная група на плошчы Герояў у Валгаградзе.

### IX З'ЕЗД МАСТАКОЎ БЕЛАРУСІ

# ВЫСОКАМУ ЧАСУ — ВЫСОКАЕ МАСТАЦТВА

22—23 студзеня ў Мінску працаваў IX з'езд мастакоў Беларусі.

У мінулым нумары «Літаратуры і мастацтва» быў надрукаваны скарочаны пераказ справаздачнага даклада праўлення Саюза мастакоў Беларусі, які зрабіў заслужаны дзеяч мастацтваў БССР В. Грамыка.

Сёння мы прапануем вашай увазе нататкі з абмеркавання справаздачных дакладаў праўлення і рэвізійнай камісіі Саюза мастакоў БССР на IX з'ездзе мастакоў Беларусі.

У ЗНАМЯНАЛЬНЫЯ дні, калі савецкі народ, адсвяткаваўшы пяцідзесяцігоддзе ўтварэння Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік, стаў на ўдарную вахту трэцяга, ключавога года дзевятай пяцігодкі, праходзіў форум беларускіх майстроў выяўленчага мастацтва.

З глыбокіх партыйных пазіцый мастакі рэспублікі прааналізавалі поспехі беларускага мастацтва, шчыра пагаварылі пра тое, што замінае яго нястомнаму руху наперад.

У спрэчках было пастаўлена шмат пытанняў тэарэтычнага, творчага і арганізацыйнага плана.

Сваімі думкамі аб месцы творцы ў перыяд абвостранай ідэалагічнай барацьбы, аб вялікім значэнні выяўленчага мастацтва ў выхаванні гарманічнага чалавека, чалавека камуністычнага заўтра, аб адказнасці мастака перад народам і партыяй, аб неабходнасці ў сваёй творчасці кіравацца жыватворчымі прынцыпамі сацыялістычнага рэалізму гаварылі на з'ездзе і жывапісцы, і графікі, і скульптары, і крытыкі, мастакі дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва і дызайнеры, мастакі кіно і мастакі тэатра.

— Мы павінны дакладна ўяўляць, —сказаў у сваім выступленні народны мастак Беларусі, правадзейны член Акадэміі мастацтваў СССР З. Азгур, — што сацыялістычны рэалізм — зусім не нейкая аморфная плынь, якая не мае берагоў, а выразны, акрэслены метад, які мае свае законы і які развіваецца ў межах гэтых законаў.

Гэтую думку масцітага мастака падтрымаў у сваім выступленні і мастацтвазнаўца У. Бойка.

У апошнія гады мастакі Беларусі стварылі шэраг значных твораў, прысвечаных савецкаму рабочаму. Аднак удзельнікі з'езда былі аднадушныя ў тым, што гэтага вельмі і вельмі мала, што ўсе яны пакуль што ў даўгу перад рабочым класам.

— Твор аб сучаснасці, аб рабочым класе, — сказаў на з'ездзе народны мастак Беларусі Я. Зайцаў, — патрабуе ад кожнага з нас, хто носіць высокае званне савецкага мастака, творчай сталасці, вялікай грамадзянскай думкі, глыбіні назірання. Інакш непазбежна з'яўленне слабых карцін, графічных работ і скульптур, не здольных узбагаціць гледача, прынесці яму радасць, якую абавязана несці сустрэча з мастацтвам.

Калі аналізуеш нашы выстаўкі, працягваў прамоўца, то даводзіцца з сумам канстатаваць той факт, што на іх усё яшчэ мала карцін і партрэтаў, якія глыбока раскрываюць вобразы рабочых, калгаснікаў, нашай інтэлігенцыі, вучоных.

— Якая тэма павінна стаць галоўнай, вядучай? — спытаў у сваім выступленні заслужаны дзеяч мастацтваў БССР М. Гуцієў. — Вакол якой асноўнай праблемы трэба весці актыўную, стваральную працу ўсяму нашаму творчаму калектыву?

Мне здаецца, што такой тэмай можа і павінна стаць тэма савецкага рабочага класа.

Далей у сваім выступленні М. Гуцієў падрабязна спыніўся на неабходнасці больш цесных сувязей паміж творцамі і рабочымі калектывамі. Ён падкрэсліў, што гэтыя сувязі павінны закладвацца яшчэ на студэнцкай лаўцы, у час вытворчай практыкі і потым працягвацца і замацоўвацца ўсім жыццём.

М. Гуцієў расказаў пра вопыт нашых сяброў, мастакоў, літаратараў, кампазітараў ГДР, якія наладзілі трывалыя сувязі з вытворчасцю, даўно і з вялікім поспехам выконваюць сацыяльны заказ германскага рабочага класа.

— Нядаўна я пабываў у ГДР. Мне пашчасціла патрапіць на своеасаблівую канферэнцыю па абмене вопытам, якая была склікана на хімічным заводзе «Буна». На гэтую канферэнцыю прыехалі дырэктары заводаў, мастакі, пісьменнікі, кампазітары, якія сістэматычна працуюць на прадпрыемствах у брыгадах сацыялістычнай працы. На заводах Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі зрабілася звычайнай справай заключэнне дагавораў з мастакамі на стварэнне буйных твораў мастацтва, прысвечаных гэтаму прадпрыемству.

Мастакі расказвалі, што спачатку рабочыя ставіліся да іх скептычна. Але потым, калі ўбачылі рэальную аддачу ад працы мастакоў — цэлы шэраг твораў, прысвечаных іх заводу, на буйных мастацкіх выстаўках, —давер'е было заваявана.

На з'ездзе выступіў дырэктар аднаго з мінскіх заводаў. Ён сказаў, што кіраўнікі прадпрыемстваў з ахвотай пайшлі б насустрач інтарэсам мастакоў, запрашалі б іх на свае прадпрыемствы, заключалі б дагаворы на стварэнне карцін, графічных серый, скульптур, прысвечаных лепшым людзям прадпрыемства.

Аб тым, што тэма рабочага класа, тэма калгаснага сялянства павінна стаць галоўнай тэмай нашага мастацтва, гаварыў і У. Стальмашонак. Ён прыгадаў вопыт мінулых гадоў, калі беларускія мастакі больш смела, больш актыўна браліся за тэму рабочага класа, больш востра ставілі перад сабой пытанні адлюстравання працоўных подзвігаў будаўнікоў Салігорска, Наваполацка, Новалукомля.

— І можа якраз таму, што ў тыя гады мы не баяліся выехаць са сталічных майстэрняў на новабудоўлі, можа якраз таму, што не баяліся ставіць перад сабой вялікія задачы нават у простым малюнку алоўкам, можа якраз дзякуючы ўсяму гэтаму сёння мы маем сапраўдны выяўленчы летапіс першых беларускіх новабудоўляў, маем занатаваны на палатне, паперы, кардоне, абагульнены партрэт будаўніка, рабочага-камсамольца сярэдзіны 50-х—пачатку 60-х гадоў.

Важным элементам творчай вучобы мастакоў з'яўляецца кваліфікаваны аналіз іх твораў, шырокае абмеркаванне экспазіцый выставак. Аднак у апошнія гады, напрыклад, у Саюзе мастакоў і яго творчых секцыях не было ніводнага разбору твораў беларускіх скульптараў-манументалістаў. Аб гэтым сказаў з трыбуны з'езда З. Азгур. Аб неабходнасці сістэматычных разбораў твораў розных жанраў у Саюзе мастакоў і яго секцыях гаварылі на з'ездзе і іншыя прамоўцы.

А абмяркоўваць было што!

Як адзначыў у сваёй прамове міністр культуры БССР Ю. Міхневіч, за апошні час у рэспубліцы створана каля двух тысяч помнікаў і манументаў, у тым ліку ўсенародна вядомыя мемарыяльныя комплексы і ансамблі.

Ю. Міхневіч узняў у сваёй прамове прынцыпова важнае пытанне аб адлюстраванні мастакамі вобраза нашай рэчаіснасці.

— Толькі за апошнія тры гады, — сказаў ён, — Міністэрства культуры набыло каля 900 твораў больш чым 450 аўтараў. Але далёка не ўсе яны могуць лічыцца дастойным укладам у творчы фонд нашага выяўленчага мастацтва... Прыклад таму некаторыя пейзажы, дзе з дзіўнай настойлівасцю раптам выпаўзаюць на першы план то ўрослыя ў зямлю хаціны, то іншыя цені старадаўнасці, засланяючы новае аблічча роднага краю.

А каму ж, як не мастаку, выхоўваць пачуццё гордасці за савецкую Радзіму, за савецкага чалавека, які пераўтварае жыццё навокал.

З адабрэннем сустрэлі ўдзельнікі з'езда паведамленне Ю. Міхневіча аб рашэнні калегіі міністэрства абмяркоўваць найбольш буйныя выстаўкі разам з прэзідыумам Саюза мастакоў рэспублікі.

Адметнае месца ў творчасці мастакоў Беларусі займае і тэма Вялікай Айчыннай вайны, тэма ўсенароднага гераізму, тэма адданасці і беззапаветнай мужнасці кожнага сапраўднага савецкага чалавека.

Многія палотны беларускіх мастакоў, прысвечаныя гэтай высакароднай тэме, прасякнуты публіцыстычным абагульненнем. Яны нараджаюць у гледача не толькі патрыятычную гордасць за подзвігі мінулых баёў, але і высокую заклапочанасць лёсам сённяшняга свету, пачуццё далучанасці да ўсяго, што адбываецца на нашай планеце.

Шмат работ беларускіх мастакоў на тэму Вялікай Айчыннай вайны ўвайшло ў лік выдатных работ савецкага мастацтва. Сярод іх—палотны М. Савіцкага, М. Данцыга, В. Грамыкі, графічныя серыі А. Кашкурэвіча, станковыя скульптуры Л. Гумілеўскага, Г. Мурамцава, манументальныя комплексы, у стварэнні якіх прымалі ўдзел А. Бембель, С. Селіханаў, А. Анікейчык і многія, многія іншыя работы беларускіх майстроў. Сярод гэтых вядомых усяму савецкаму народу работ выдатныя творы беларускай манументальнай пластыкі, мемарыяльныя помнікі ў Хатыні, Брэсце, Курган Славы на 21-м кіламетры Маскоўскай шашы.

— Айчынная вайна стала для беларускіх мастакоў адной з вядучых тэм творчасці,—адзначыў у сваім выступленні сакратар праўлення Саюза мастакоў СССР Б. Няменскі. — Подзвігі народа натхняюць майстроў мастацтва Беларусі на стварэнне пранікнёных, хвалюючых твораў.

Некалькі год назад у рэспубліцы быў распрацаваны перспектыўны план увекавечання памяці герояў у велічных мемарыяльных збудаваннях. На сённяшні дзень гэты план у асноўным выкананы. Але, як сказаў з трыбуны з'езда старшыня секцыі скульптуры Саюза мастакоў БССР П. Белавусаў, відаць, надышоў час падбаць пра тое, каб ужо сёння мець перспектыўны план развіцця беларускай манументальнай пластыкі на заўтра, каб ужо сёння вызначыць тыя галоўныя напрамкі, тыя галоўныя аб'екты, якія заўтра будуць ствараць гонар беларускай скульптуры і архітэктуры.

Ніводзін майстар не можа лічыцца сапраўдным майстрам, калі за сваё жыццё не падрыхтаваў паслядоўнікаў, не перадаў нікому свайго майстэрства. Можа якраз таму з такой шчырасцю і прынцыповасцю было пастаўлена на з'ездзе пытанне аб падрыхтоўцы кадраў, аб выхаванні маладых мастакоў. Пра гэта гаварылі ў сваіх выступленнях і народныя мастакі Беларусі А. Бембель і З. Азгур, і заслужаны дзеяч мастацтваў рэспублікі Н. Воранаў, і выкладчык Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута А. Казлоўскі, і заслужаны настаўнік рэспублікі В. Вярсоцкі.

— Эстэтычнае выхаванне ў нашай краіне,—сказаў В. Вярсоцкі,—магутны сродак узбагачэння чалавека, фармавання пачуццяў, думак, густаў, якія адпавядаюць ідэалам нашага грамадства. Эстэтычнае выхаванне з'яўляецца дзейсным сродкам фармавання камуністычнага светаадчування.

Недаацэнка эстэтычнага выхавання, фетышызацыя лагічнага мыслення вядзе да аднабаковага развіцця асобы. А саюз навуковага і эмацыянальнага ўспрыняцця, вольны ад прафесійнай абмежаванасці, аднолькава плённы для мастака і для вучонага, для ўрача і рабочага, агранома і настаўніка.

Асновы выяўленчага мастацтва, якія выкладаюцца ў школах, павінны развіваць у дзіцяці фантазію, эстэтычны густ, выхоўваць жаданне працаваць творча. Школьныя праграмы павінны знаёміць вучняў з асновамі сусветнай мастацкай культуры, садзейнічаць фармаванню асабістых эстэтычных крытэрыяў, мастацкага мыслення.

Сёння нам патрэбна навукова абгрунтаваная сістэма мастацкага выхавання, асновай якой павінен стаць звычайны ўрок. Нам патрэбны кадры настаўнікаў малявання, патрэбна сучасная методыка выкладання, патрэбны распрацоўкі, у якіх абагульняўся б вопыт вядучых педагогаў-энтузіястаў.

Цяпер ў рэспубліцы існуе каля дзевяхсот дзіцячых музычных школ, якія працуюць не толькі ў сталіцы і буйных гарадах, а нават і ў калгасах. Зразумела, што гэтая сетка першапачатковага музычнага навучання можа весці актыўны пошук таленавітай моладзі, рыхтаваць кадры для наступлення ў сярэднія і вышэйшыя музычныя ўстановы.

А як жа справа з мастацкім выхаваннем?

**У ПЕРАПЫНКАХ ПАМІЖ ПАСЯДЖЭННЯМІ**



І. Фяцісаў (Брэст) і У. Стальмашонак.



А. Гулбіс (Латвія) і В. Вярсоцкі.



Л. Эрлер.

# ВЫСОКАМУ ЧАСУ — ВЫСОКАЕ МАСТАЦТВА

— Я хачу бачыць нашага сучасніка, — сказаў А. Гугель, — духоўна прыгожым, з высокімі інтэлектуальнымі запатрабаваннямі, высокім культурным узроўнем. Я хачу, каб на карцінах нашых мастакоў ён быў не схематычным, а высакародным і прыгожым, такім, якім мы яго бачым у жыцці.

Развіваючы гэтую думку, прамоўца падзяліўся некалькімі цікавымі назіраннямі над сучасным беларускім жывапісам, зрабіў заўвагі мастакам, якія, на яго думку, у пагоні за моднымі павевамі, наўмысна скажаюць вобраз нашага сучасніка, адмаўляючы яму ў духоўным багацці і шматграннасці, выдзяляючы якую-небудзь адну рысу яго характару.

А. Гугель засцярог маладых мастакоў ад захаплення работай без натуры, ён падкрэсліў, што для таго, каб дасягнуць поспеху ў мастацтве, трэба сур'ёзна і самаадданa займацца ўдасканаленнем прафесійнага майстэрства.

У заключэнне А. Гугель выказаў прапанову аб некаторых зменах у арганізацыйнай структуры Саюза мастакоў.

З вялікай прыхільнасцю ўдзельнікамі з'езда было сустрэта выступленне М. Назарчука, якое ён прысвяціў праблеме больш цесных сувязей паміж творцамі і працаўнікамі калгаснай вёскі.

— Сёння,—сказаў М. Назарчук,— адзін прафесійны мастак, член Саюза мастакоў Беларусі прыходзіцца прыкладна на 26800 чалавек насельніцтва рэспублікі, а гэта вельмі і вельмі мала, калі ўлічыць веліч і значнасць тых задач, якія стаяць перад нашым мастацтвам.

На ўрачыстым пасяджэнні, прысвечаным 50-годдзю ўтварэння СССР, якое адбылося ў Мінску, П. М. Машэраў сказаў: «Партыя бачыць у выхаванні ўсебакова адукаваных, духоўна багатых, маральна дасканалых людзей адну з ключавых праблем камуністычнага будаўніцтва. І рашаць яе трэба не калі-небудзь у будучым, а сёння, выкарыстоўваючы ўсе формы і сродкі палітычнага, ідэалагічнага і культурнага ўздзеяння».

Немагчыма ўявіць сабе маральна дасканалага, сучаснага чалавека без прагі да культуры, мастацтва. У дамы нашых калгаснікаў, жыхароў маленькіх гарадоў сёння трывала ўвайшла кніга, тэлебачанне наблізіла да іх лепшыя тэатры нашай краіны, радыё дало магчымасць прысутнічаць на самых цудоўных канцэртах, якія адбываюцца ў Маскве, Ленінградзе. І толькі выяўленчае мастацтва пакуль што знаходзіцца далей за ўсіх ад селяніна, ад таго, чыя праца, чые турботы і подзвігі жывілі не адно пакаленне прагрэсіўных мастакоў.

**У беларускіх вёсках жыве каля паловы насельніцтва рэспублікі. Па перапісу 1971 года гэта каля пяці мільёнаў чалавек. Але не ўсе яны знаёмы з лепшымі творамі выяўленчага мастацтва.**

Мне здаецца, што мы ўжо сёння павінны падумаць, як выправіць такое становішча. Відаць, зусім неабходна наладзіць мабільныя перасоўныя выстаўкі, укамплектаваныя з дваццаці-трыццаці работ, якія абавязкова суправаджалі б мастакі і мастацтвазнаўцы, каб там, у вёсцы, у маленькім гарадку, было каму выступіць перад працоўнымі, расказаць пра беларускае мастацтва, паспрачацца ля палотнаў, пракансультаваць самадзейных мастакоў, прагледзець работы таленавітых дзяцей, даць парады настаўніку малявання ў вясковай школе, ды і зрабіць эцюды, партрэты жывых людзей, слаўных працаўнікоў, якіх у апошні час не так ужо «густа» на нашых буйных рэспубліканскіх вернісажах.

Мне здаецца, што старшыні калгасаў таксама знайшлі б сродкі, каб заказаць лепшым мастакам партрэты знатных людзей сваіх гаспадарак, пейзажы, тэматычныя карціны, якія маглі б упрыгожыць клубы, дамы культуры, прывіваючы любоў да выяўленчага мастацтва. Можа калі-небудзь з такіх карцін стварыліся б нават калгасныя карцінныя галерэі.

Відаць, само жыццё падкажа тыя формы і метады, якія будуць найбольш эфектыўнымі для вырашэння пастаўленых праблем. Галоўнае, уяўляецца мне сёння, распачаць працу, зварухнуць яе з мёртвай кропкі.

Больш трыццаці прамоўцаў выступіла ў спрэчках па дакладах праўлення Саюза мастакоў БССР і рэвізійнай камісіі.

З'езд віталі сакратар праўлення Саюза мастакоў СССР Б. Нямёнскі, прадстаўнікі Саюза мастакоў братніх рэспублік: РСФСР—С. Іваноў, Украіны—Э. Місько, Літвы—Э. Жаўберыс, Латвіі—А. Гулбіс, Эстоніі—Э. Пылдрас, Малдавіі—С. Кучук, Азербайджана—Э. Гусейнаў, Кіргізіі—К. Керымбекаў.

Аналізу развіцця розных жанраў выяўленчага мастацтва Беларусі, пытанням далейшага ўдасканалення работы свайго Саюза і розных яго інстытутаў, дзейнасці Мастацкага фонду БССР, эстэтычнаму выхаванню падрастаючага пакалення і працаўнікоў вёскі і горада, шырокай прапагандзе і багатага беларускага выяўленчага мастацтва прысвяцілі свае выступленні А. Бембель, Я. Чамадураў, А. Шыбнёў, П. Данелія, І. Пушкоў, Я. Пакаташкін, Ю. Шпіт, Т. Паражняк.

Ва ўсіх выступленнях відаць была агульная заклапочанасць у далейшым росквіце беларускага мастацтва, жаданне зрабіць усё, каб яшчэ больш поўна і глыбока адлюстраваць вобраз нашага сучасніка, яшчэ больш поўна і глыбока расказаць пра падзеі, якія хвалююць усё прагрэсіўнае чалавецтва, адказаць на пытанні, якія стаяць сёння перад кожным сумленным чалавекам, прыкласці як мага больш сіл, каб сваёй працай, сваёй творчасцю дапамагчы партыі ў выхаванні новага чалавека камуністычнага заўтра.

З заключным словам выступіў В. Грамыка. Ён спыніўся на некаторых пытаннях, закранутых у выступленнях. Ён паведаміў з'езду пра ініцыятыву Ленінградскай і Маскоўскай арганізацый Саюза мастакоў СССР, якія ўвайшлі з прапановай у Сакратарыят Саюза мастакоў СССР унесці змену ў Статут Саюза, у прыватнасці, у тыя яго параграфы, дзе гаворыцца аб парадку прыёму ў саюз новых членаў. Мастакі Масквы і Ленінграда прапанавалі зноў увесці інстытут кандыдатаў, каб можна было лепш праверыць, на што здольны малады мастак, які яго творчы патэнцыял.

В. Грамыка зрабіў некалькі заўваг па рабоце Мастацкага фонду, адказаў на шэраг заўваг, зробленых удзельнікамі з'езда ў адрас выставачных камітэтаў, праўлення Саюза мастакоў, яго прэзідыума. В. Грамыка згадзіўся з крытыкай работы праўлення і прэзідыума, адзначыўшы як галоўны недахоп іх работы дрэнны кантроль за выкананнем сваіх рашэнняў, перагружанасць будзённымі справамі, якія маглі б выканаць і работнікі апарату саюза. Ён перадаў будучаму праўленню пажаданне пазбегнуць усіх тых памылак, якія іншы раз перашкаджалі рабоце старога праўлення.

●

З'езд прыняў разгорнутую рэзалюцыю, у якой намеціў шэраг канкрэтных прапаноў па развіццю беларускага выяўленчага мастацтва.

Важнейшай задачай мастакоў Савецкай Беларусі, сказана ў рэзалюцыі, з'яўляецца стварэнне высокаідэйных, яркіх твораў жывапісу, скульптуры, графікі, манументальнага мастацтва, якія вобразна раскрываюць веліч здзяйсненняў савецкага чалавека, героіку яго подзвігаў у барацьбе за свабоду і незалежнасць Радзімы і на працоўным фронце...

Адной з галоўных задач практычнай дзейнасці новага праўлення Саюза мастакоў БССР, гаворыцца далей, павінны стаць клопаты аб павышэнні ідэйна-мастацкага ўзроўню творчасці ўсіх беларускіх майстроў выяўленчага мастацтва. Неабходна падтрымліваць сапраўднае наватарства, якое абапіраецца на прагрэсіўныя традыцыі рэалістычнага мастацтва, узбагачае яго новым сэнсам, новымі мастацкімі формамі і сродкамі.

Неабходна больш смела і шырока шукаць патрэбныя арганізацыйныя формы сумеснай работы жывапісцаў і скульптараў, майстроў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва і архітэктараў, пачынаючы з праектавання новых будынкаў, ансамбляў, архітэктурных комплексаў гарадоў і вёсак. Трэба больш настойліва ўводзіць у афармленне інтэр'ераў грамадскіх будынкаў, прамысловых прадпрыемстваў, калгасных устаноў творы станковага мастацтва, жывапіс, графіку, скульптуру, якія маюць вялікую ідэйна-выхаваўчую ролю і эстэтычную каштоўнасць.

Здзяйсненне плана манументальнай прапаганды ў рэспубліцы, увекавечанне гераічных подзвігаў савецкага чалавека ў гады Вялікай Айчыннай вайны павінна стаць прадметам асаблівых клопатаў Саюза мастакоў Беларусі. Кожны новы помнік павінен быць ясным па сваёй ідэйнай задуме, несці ў сабе арыгінальны мастацкі вобраз, адпавядаць высокаму ўзроўню архітэктурна-пластычных рашэнняў.

З'езд лічыць неабходным прыняць захады для рашэння ў рэспубліцы пытання аб становішчы мастака на вытворчасці, аб неабходнасці больш шырокага ўкаранення ў прамысловасць мастацкага канструявання і афармлення розных відаў прадукцыі.

З'езд даручыў праўленню Саюза мастакоў БССР прыняць канкрэтныя прапановы па ўмацаванню матэрыяльна-тэхнічнай базы для развіцця манументальнага мастацтва, скульптуры, дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.

З'езд даручыў праўленню Саюза мастакоў БССР, Мастацкаму фонду Беларусі вырашыць праблему забеспячэння ўсіх актыўных мастакоў умовамі для творчай працы, забяспечыць іх творчымі майстэрнямі, без якіх нельга сабе ўявіць паўнацэннай творчай дзейнасці мастака.

З'езд лічыць, што новаму праўленню трэба звярнуць асаблівую ўвагу на работу з маладымі мастакамі, клапаціцца аб іх творчым росце, ствараць неабходныя ўмовы для далейшага іх прафесійнага і ідэйна-мастацкага ўдасканалення...

«Выставачная дзейнасць Саюза мастакоў, — гаворыцца ў рэзалюцыі, —павінна быць больш шырокай, мэтанакіраванай і эфектыўнай. Неабходна больш арганізоўваць выставак на прадпрыемствах і ў калгасах, больш наладжваць групавых і персанальных выставак».

Беларускія жывапісцы, скульптары, графікі, мастакі дэкаратыўна-прыкладнога, манументальнага і тэатральна-дэкарацыйнага мастацтва, крытыкі і мастацтвазнаўцы далі слова партыі і ўраду прысвяціць увесь свой талент, майстэрства, полымя сэрцаў служэнню народу, які здзяйсняе гістарычныя рашэнні XXIV з'езда КПСС.

●

IX з'езд мастакоў Беларусі аднадушна прыняў пісьмо Цэнтральнаму Камітэту Камуністычнай партыі Савецкага Саюза, Прэзідыуму Вярхоўнага Савета СССР, Савету Міністраў Саюза ССР, у якім сказана:

«Мастакі Савецкай Беларусі, якія сабраліся на свой IX з'езд, звяртаюцца да роднай Камуністычнай партыі і Савецкага ўрада са словамі гарачага прывітання і ўдзячнасці.

Мы жывём у цудоўны час. Савецкія людзі ўступілі ў другое пяцідзесяцігоддзе братэрскага Саюза сацыялістычных рэспублік.

Ідзе трэці, рашаючы год дзевятай пяцігодкі. Кожны савецкі чалавек узнёсла працуе, ажыццяўляючы акрэсленыя XXIV з'ездам КПСС планы будаўніцтва камунізму. Грандыёзныя эканамічныя, грамадска-палітычныя змены ў нашай краіне стварылі вельмі спрыяльныя ўмовы для сапраўднага росквіту шматнацыянальнай, сацыялістычнай культуры.

Нашы поспехі, нашы дасягненні ў выяўленчым мастацтве абумоўлены няўхільным увасабленнем у жыццё ленінскіх прынцыпаў інтэрнацыяналізму, сяброўства і брацкага супрацоўніцтва ўсіх народаў нашай шматнацыянальнай дзяржавы.

Мы шчаслівыя і гордыя тым, што з'яўляемся ўдзельнікамі будаўніцтва камуністычнай культуры, якая адкрывае новую старонку ў мастацкім летапісе чалавецтва, што ў скарбонку савецкага выяўленчага мастацтва ўнесены і наш уклад.

Уся гісторыя нашага мастацтва даказала жыццёвасць і правату ленінскіх прынцыпаў партыйнасці і народнасці мастацтва. Яны заўсёды былі асновай мастацкай палітыкі Камуністычнай партыі і дапамагаюць мастакам тварыць на ўзроўні нашага часу.

Разам з тым мы глыбока разумеем, што ўсе мы яшчэ ў вялікім даўгу перад народам, партыяй, перад нашым сучаснікам, што вялікія задачы ўвасаблення ў вобразах выяўленчага мастацтва героя нашых дзён—будаўніка камуністычнага грамадства—з дзівоснай прыгажосцю яго духоўнага абліčча, патрабуюць ад нас далейшай мабілізацыі ўсіх творчых сіл, павышэння адказнасці кожнага мастака за свой твор, пашырэння арсенала выяўленчых сродкаў, пастаяннай работы над павышэннем прафесійнага майстэрства. Час, партыя, народ патрабуюць: высокаму часу—высокае мастацтва!

Цяпер, калі ў свеце ідзе вострая ідэалагічная барацьба паміж капіталізмам і сацыялізмам, барацьба за перамогу высокіх ідэалаў камунізму, —мы разумеем, як патрэбна выразнасць і трываласць нашых ідэйных пазіцый, непрымірымасць да ўсялякіх праяў буржуазнай ідэалогіі.

Сабраўшыся на наш з'езд, мы яшчэ раз усвядомілі, якія важныя для паспяховага развіцця нашага мастацтва вернасць прынцыпам сацыялістычнага рэалізму, узнёслае служэнне вялікім ленінскім ідэалам, справе Камуністычнай партыі, глыбокая сувязь з народам.

Мы з гордасцю кажам, што для нас, савецкіх мастакоў, няма больш пачэснай задачы, чым удзельнічаць сваёй творчасцю ў стваральным жыцці народа, няма большага шчасця, чым праўдзіва і ярка паказаць нашу сацыялістычную рэчаіснасць, узнімаць у сваіх творах велічныя камуністычныя ідэалы.

Служыць сваёй творчасцю народу, актыўна садзейнічаць забеспячэнню растучых эстэтычных патрабаванняў савецкіх людзей—вышэйшы абавязак кожнага савецкага мастака!»

*СЯБРОЎСКІЯ ШАРЖЫ З. ПАЎЛОЎСКАГА*



М. Станюта.



Г. Паплаўскі.

*СЯБРОЎСКІЯ ШАРЖЫ С. ВОЛКАВА*


М. Савіцкі.


В. Цвірко.


Б. Забораў.


А. Кашкурэвіч.

# ВЫСОКІЯ ПАТРАБАВАННІ СУЧАСНАСЦІ

**НАРАДА ГАЛОЎНЫХ РЭДАКТАРАЎ ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІХ ЧАСОПІСАЎ І ГАЗЕТ**

Днямі ў Цэнтральным Доме літаратараў імя А. А. Фадзеева ў Маскве адбылася нарада галоўных рэдактараў цэнтральных і рэспубліканскіх літаратурна-мастацкіх часопісаў і газет, скліканая сакратарыятам праўлення Саюза пісьменнікаў СССР. Галоўнае пытанне парадку дня — падвядзенне вынікаў работы часопісных рэдакцый за год, які прайшоў з дня апублікавання Пастановы ЦК КПСС «Аб літаратурна-мастацкай крытыцы».

Адкрываючы нараду, сакратар праўлення СП СССР, старшыня савета па крытыцы В. М. Озераў выказаў упэўненасць у тым, што абагульненне ўжо накопленага часопісамі вопыту па ажыццяўленню пастановы, якая з'яўляецца доўгачасовай праграмай нашай літаратурнай крытыкі, будзе садзейнічаць удасканаленню дзейнасці рэдакцыйных калектываў, дапаможа ўдзельнікам нарады ў іх далейшай рабоце.

З вялікім дакладам на нарадзе выступіў першы сакратар праўлення СП СССР Г. М. Маркаў. Поўнасцю гэты даклад будзе апублікаваны ў красавіцкай кніжцы часопіса «Вопросы литературы». Адзначыўшы, што ў мінулым годзе на старонках многіх часопісаў з'явіліся новыя таленавітыя творы прозы і паэзіі, што літаратурна-крытычныя аддзелы шэрагу часопісаў ажывіліся і ўзбагаціліся цікавымі і разнастайнымі рубрыкамі, дакладчык у той жа час падкрэсліў, што гэтыя бясспрэчныя поспехі не павінны закрываць ад нас яшчэ непераадоленыя сур'ёзныя недахопы. Так, напрыклад, павінны ўсімі сіламі ўмацоўвацца сувязі пісьменнікаў з жыццём. Партыя, народ чакаюць ад літаратараў пастаяннага, актыўнага і смелага пранікнення ў жыццё. Літаратурная крытыка заклікана ўсімі сіламі садзейнічаць гэтаму.

Сакратарыят праўлення СП СССР бачыць у часопіснай крытыцы і часопісах у цэлым найважнейшы рычаг ўздзеяння на літаратурны працэс.

У спрэчках па дакладу выступілі В. О. Рэчмедзін («Вітчизна»), В. М. Кажэўнікаў («Знамя»), Д. Д. Мамедаў («Азербайджан»), А. І. Смердаў («Сибирские огни»), А. А. Бальбураў («Байкал»), Л. П. Каюмаў («Узбекістоп маданияці»).

У рабоце нарады прынялі ўдзел загадчык Аддзела культуры ЦК КПСС В. Ф. Шаура, загадчык сектара Аддзела культуры ЦК КПСС А. А. Бяляеў, загадчык сектара Аддзела прапаганды ЦК КПСС Н. Б. Бікенін.

Удзельнікі нарады прысутнічалі на адкрыцці помніка Аляксандру Аляксандравічу Фадзееву.

# НА ПАРАДКУ ДНЯ — КРЫТЫКА

Адбыўся сумесны адкрыты партыйны сход камуністаў Саюза пісьменнікаў Беларусі і Інстытута літаратуры імя Я. Купалы АН БССР.

З дакладам «Ход выканання Пастановы ЦК КПСС «Аб літаратурна-мастацкай крытыцы» выступіў А. Гардзіцкі.

Ён засярodзіў увагу літаратараў на шэрагу актуальных пытанняў беларускай сучаснай крытыкі. Адзначаючы ўзрослую актыўнасць крытыкаў за апошні год, пэўныя іх поспехі, дакладчык гаварыў і пра тыя істотныя недахопы, якія яшчэ, на жаль, даюць аб сабе знаць у многіх крытычных працах.

Наша крытыка не можа яшчэ пахваліцца грунтоўнымі даследаваннямі па такой асноўнай тэарэтычнай праблеме літаратуры, як праблема народнасці і партыйнасці. Не раскрыта пакуль своеасаблівасць сённяшняга этапа ў развіцці сацыялістычнага рэалізму.

Ішла ў дакладзе гутарка і аб прафесійным узроўні нашай крытыкі, аб уменні спалучаць эстэтычны і сацыялагічны аналіз мастацкіх твораў, аб прынцыповасці і бескампраміснасці крытыка ў ацэнцы літаратурных з'яў, аб пашырэнні жанраў, чытабельнасці крытычных артыкулаў.

А. Гардзіцкі таксама асобна спыніўся на пытанні, як літаратурныя часопісы рэспублікі ўплываюць на сучасны літаратурны працэс, падсумаваў, што зроблена імі за год.

У заключэнне дакладчык выказаў упэўненасць у тым, што беларускія крытыкі і літаратуразнаўцы яшчэ актыўней будуць уздзейнічаць на літаратурны працэс у рэспубліцы і змагацца за далейшае павышэнне ідэйна-мастацкага ўзроўню літаратуры.

У спрэчках па дакладу выступілі: У. Казбярук, Я. Семяжон, Р. Шкраба, П. Дзюбайла, Л. Левановіч, Г. Бураўкін, У. Юрэвіч, А. Шаўня. Іх выступленні былі прасякнуты клопатам аб стане нашай беларускай крытыкі, прысвечаны расказу аб тым, як вырашаюцца літаратурнымі выданнямі тыя важныя надзённыя задачы, што выказаны ў Пастанове ЦК КПСС «Аб літаратурна-мастацкай крытыцы».

# ПРЭМ'ЕРА АДБЫЛАСЯ, ПРЭМ'ЕРА БУДЗЕ

РАСКАЗВАЕ АНДРЭЙ МАКАЁНАК

Як мы паведамлялі, у Маскоўскім тэатры сатыры адбылася прэм'ера п'есы Андрэя Макаёнка «Таблетку пад язык». Паставіў спектакль галоўны рэжысёр тэатра, народны артыст РСФСР Валянцін Плучак. У ім заняты папулярныя артысты Г. Менглет, А. Папанаў, С. Мішулін, В. Бойкаў, А. Міронаў, А. Шырвінт, Н. Селязнёва і іншыя.

Гэта другая п'еса беларускага драматурга, пастаўленая на сцэне Тэатра сатыры. На гэтай жа сцэне маскоўскія гледачы ўбачылі спектакль «Зацюканы апостал» у пастаноўцы Я. Радамысленскага. Па ўсяму адчуваецца, што Макаёнак гэтаму тэатру, як гаворыцца, да спадобы, і ўжо можна гаварыць аб трывалай творчай дружбе, якая звязала таленавітага драматурга з таленавітым калектывам.

Наш карэспандэнт сустрэўся з Андрэем Ягоравічам і папрасіў падзяліцца ўражаннямі аб рабоце з рэжысёрамі і акцёрамі тэатра.

— Мне вельмі пашанцавала. Валянцін Плучак — сапраўдны чараўнік сцэны, прафесіянал высокага класа. Працаваць з ім — вялікая асалода. Ён нястомна фантазіруе, дае магчымасць імправізаваць акцёрам. Кожная яго рэпетыцыя — творчы зарад на многа спектакляў. І ніколі не спыняецца, ніколі не лічыць, што ўсё ўжо зроблена.

Мне давялося прысутнічаць на адной з апошніх рэпетыцый (на наступны дзень спектакль павінны былі здаваць мастацкаму савету). У мяне склалася ўражанне, нібыта рэпетыцыя пачынаюцца спачатку: столькі новых задач рэжысёр паставіў перад акцёрамі. Ад выканаўцаў ён патрабаваў шмат, але шмат даваў ім сам. Валянцін Плучак расказваў гісторыі смешныя і сумныя, акцёры нястрымна рагаталі і, здавалася, усё гэта не мае ніякага дачынення да будучага спектакля. Але гэта толькі здавалася...

Мне вельмі спадабаліся артысты, занятыя ў спектаклі. Добра знаёмыя нам па мноству спектакляў і фільмаў, яны былі непазнавальныя: на сцэне жылі і дзейнічалі беларускія хлебаробы.

Магчыма, сыграла сваю ролю і тое, што мы разам з Валянцінам Плучакам шмат ездзілі па беларускіх калгасах, знаёміліся з людзьмі, назіралі за іх напружанай, нялёгкай працай, сустракаліся ў мінуты адпачынку за сяброўскай гутаркай, а часам і за кілішкам. Рэжысёр спектакля разам з артыстамі пабываў у падмаскоўных калгасах, і гэтыя сустрэчы пазней таксама шмат што далі акцёрам.

Драматург расказаў пра лёс папярэдніх дзвюх п'ес — «Зацюканы апостал» і «Трыбунал», якія параўнальна нядаўна пачалі сцэнічнае жыццё.

— «Зацюканы апостал» ідзе ў Тэатры сатыры. Мне вельмі прыемна, што да гэтага часу білеты на спектакль дастаць цяжка. У другім маскоўскім тэатры — на Малой Бронная ставяць «Трыбунал». Гэтыя п'есы пастаўлены ў нас у Беларусі і ў многіх тэатрах краіны. Ідуць яны і за мяжой.

У бліжэйшыя дні прэм'ера «Таблетку пад язык» адбудзецца ў тэатры імя Я. Купалы. Я чакаю яе з хваляваннем і нецярпеннем.

# СУСТРЭЧА З ЛАЎРЭАТАМІ

Лаўрэаты Дзяржаўных прэмій БССР за 1972 год Васіль Вітка, Іван Навуменка і Юрый Семяняка сустрэліся 26 студзеня ў клубе Саюза пісьменнікаў Беларусі з грамадскасцю сталіцы. Вечар адкрыў уступным словам першы намеснік старшыні Саюза пісьменнікаў рэспублікі народны пісьменнік БССР Іван Шамякін. Д. Бугаёў, У. Юрэвіч, А. Ракава, М. Арочка, У. Бойка расказалі пра творчасць лаўрэатаў.

А потым гучала музыка Ю. Семянякі і мастацкае слова беларускіх пісьменнікаў. У клубе экспанавалася графіка А. Кашкурэвіча.

Творы пісьменнікаў-лаўрэатаў чыталі заслужаны артыст БССР Павел Дубашынскі, артысты тэатра імя Янкі Купалы Віллета Кліменка і Анатоль Маслоўскі, лаўрэаты рэспубліканскага конкурсу чытальнікаў Эсфіра і Валерый Мікалаевы і іншыя.

## КЛУБ ВЫХАДНОГА ДНЯ

*На вуліцах гарадскога пасёлка Бешанковічы з'явіліся новыя афішы. Пачаў працаваць «клуб выхаднога дня».*

*Савет клуба, у які ўвайшлі работнікі аддзела культуры райвыканкома, райкома камсамола, а таксама спартыўных арганізацый, склаў планы работы, намеціў мерапрыемствы, якія будзе праводзіць 2 разы ў месяц.*

*У нядзелю, 28 студзеня, савет клуба запрасіў у Бешанковічы драматычныя калектывы з Астравіцкага і Ільічоўскага сельскіх дамоў культуры. Яны паказалі спектаклі.*



**ІРЫНА СЯРГЕЕЎНА КАРАТЧЭНЯ** з калгаса «Беларусь» Любанскага раёна — паважаная працаўніца-даярка, маці-гераіня. І яшчэ — любімая ў вёсцы спявачка, актыўная ўдзельніца мастацкай самадзейнасці.

Фота С. ДАРОЖКІ.

# ЗАВОДСКАМУ АБ'ЯДНАННЮ — ЧВЭРЦЬ СТАГОДДЗЯ

...Сярод сасновага бору яшчэ толькі ўзнімаліся першыя карпусы Мінскага аўтамабільнага, а ў гонар яго ўжо складаліся вершы. Пісалі іх тыя, хто сваімі рукамі ўзводзіў гэтыя карпусы, ствараў «МАЗы». Пасля работы стомленыя, але поўныя гарачага натхнення спяшаліся яны ў рэдакцыю заводскай газеты, дзе чвэрць стагоддзя назад адбыліся першыя заняткі літаратурнага гуртка.

Ішлі гады, і гурток стаў літаб'яднаннем. У яго складзе — слесары і ліцейшчыкі, інжынеры і тэхнікі, навучэнцы і студэнты. Удзельнічаюць у рабоце літаб'яднання артысты тэатра оперы і балета БССР, прадаўцы кніжных магазінаў горада.

Трыбунай заводскіх літаратараў з першых дзён работы літаб'яднання стала газета «Автозаводец». За чвэрць стагоддзя ў «Літаратурных старонках» шматтыражкі было апублікавана нямала вершаў, апавяданняў, нарысаў, напісаных членамі літаб'яднання. Рэдакцыяй выпушчаны чатыры зборнікі «Гудок кліча», «Заводскія зарніцы», «Кастрычнікам народжаныя», «Скрозь гады», складзеныя з твораў заводскіх літаратараў. Рыхтуецца да выдання пяты зборнік.

Часцей за іншыя з'яўляюцца ў «Літаратурных старонках» творы ліцейшчыкаў К. Гляйхенгауса і Л. Раманава, мастака-канструктара Ф. Рэўзіна, электрамантажніка Э. Сукалінава, інжынера-канструктара А. Хільчанкі, які прыйшоў у літаб'яднанне яшчэ студэнтам аўтамеханічнага тэхнікума.

...Неяк на занятках літаб'яднання невысокі цёмнавалосы хлопец прачытаў свае, яшчэ далёка не дасканалыя, вершы. Кіраўніку літаб'яднання пісьменніку М. Гарулёву яны спадабаліся. І Хв. Чэрня, які стаў неўзабаве рабочым аўтазавода, не прапускаў ніводных заняткаў літаб'яднання. Цяпер Хв. Чэрня — прафесійны літаратар, член Саюза пісьменнікаў БССР. Дарэчы, цяпер ён рыхтуе да выпуску ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» зборнік вершаў аднаго з членаў заводскага літаб'яднання Э. Касяпровіча. Літаб'яднанне было добрай школай і для былога бібліятэкара заводскай тэхнічнай бібліятэкі Ю. Канэ, якая выступала з апавяданнямі, крытычнымі артыкуламі. Ю. Канэ стала прафесійным літаратарам, прынята ў Саюз пісьменнікаў БССР. З ліку членаў заводскага літаб'яднання выйшлі таленавітыя журналісты, якія працуюць у рэспубліканскім друку, на радыё, тэлебачанні.

Даўняя традыцыя літаб'яднання — кроўная сувязь з заводскім калектывам. Менавіта ў рабочым калектыве чэрпаюць натхненне і тэмы для сваёй творчасці заводскія літаратары. Яны — жаданыя госці ў цэхах прадпрыемства, у маладзёжных інтэрнатах, вучылішчах, школах і тэхнікумах. З іх творчасцю знаёмы хлебаробы Бярэзінскага, Лагойскага і Валожынскага раёнаў, воіны падшэфнай часці. Не раз сустракаліся заводскія літаратары з пагранічнікамі праслаўленай заставы імя Кіжаватава. Іх вершы гучалі ў Маскве на ВДНГ СССР. Заводскае літаб'яднанне стала базай для арганізаванага на прадпрыемстве літаратурнага клуба «Крыніцы».

Рэгулярна, два разы ў месяц, збіраюцца на свае «літаратурныя серады» заводскія літаратары. Дасягаць вяршынь творчага майстэрства, вучыцца працаваць са словам у розныя гады ім дапамагалі члены Саюза пісьменнікаў БССР Р. Бярозкін і В. Тарас. Ужо шмат год кіруе аб'яднаннем член Саюза пісьменнікаў БССР М. Гарулёў.

Творчаму росту заводскіх літаратараў садзейнічае і цесная сувязь з іншымі літаб'яднаннямі. Асабліва моцная дружба ў паэтаў і празаікаў Мінскага аўтазавода са старэйшым у краіне літаратурным аб'яднаннем імя М. Горкага, якое працуе пры рэдакцыі газеты «Автозаводец» аўтамабільнага завода імя І. Ліхачова. Абмен «Літаратурнымі старонкамі», творчыя сустрэчы з масквічамі ўжо сталі традыцыйнымі.

Свой юбілей члены заводскага аб'яднання адзначылі вялікім літаратурна-музычным вечарам.

**С. ГЕБЕЛЕВА.**

# УПОРАВЕНЬ З ЧАСАМ

*АБМЯРКОЎВАЕЦЦА ПРОЗА І ПАЭЗІЯ МІНУЛАГА ГОДА*

Адбылося сумеснае пасяджэнне секцыі крытыкі Саюза пісьменнікаў Беларусі і Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук БССР, на якім былі разгледжаны здабыткі прозы і паэзіі мінулага года. З дакладам аб прозе выступіў навуковы супрацоўнік інстытута Яўген Лецка, аб паэзіі — навуковая супрацоўніца Любоў Гарэлік.

Мінулы год быў асаблівы, адзначыў Я. Лецка. Савецкая краіна адсвяткавала свой залаты юбілей. Беларуская проза ў асобе Івана Мележа ў юбілейным годзе атрымала вышэйшае прызнанне — Ленінскую прэмію. Гэтая ўзнагарода не толькі радуе, але і абавязвае ўсіх беларускіх пісьменнікаў быць на ўзроўні веку, ствараць такія мастацкія каштоўнасці, якія б хвалявалі чытачоў.

Агляд прозы дакладчык пачаў з твораў пра рабочы клас. Надрукаваныя ў часопісах раманы Т. Хадкевіча «Песня Дзвіны», А. Савіцкага «Тры непражытыя дні», аповесць М. Гіля «Вяртанне», апавяданні У. Кузьмянкова, Я. Радкевіча і інш. сведчаць, што нашы празаікі пачалі смялей звяртацца да тэмы рабочага класа. Асноўныя персанажы рамана Т. Хадкевіча — кіраўнікі так званага вышэйшага і сярэдняга звяна вытворчасці. У рамане «Тры непражытыя дні» А. Савіцкі імкнецца асэнсаваць тыя новыя маральныя працэсы, якія фармуюць характар нашага сучасніка. Бясспрэчнай заслугай пісьменніка з'яўляецца тое, што ён не спрашчае жыццё, імкнецца даследаваць псіхалогію сучасніка. Раман узнімае новыя ў нашай літаратуры жыццёвыя пласты, малюе нетрадыцыйны вобраз гараджаніна.

Аднак паасобныя творы, у аснову якіх пакладзены жыццёвы, звязаны з вытворчасцю матэрыял, не вызначаюцца мастацкай дасканаласцю, глыбінёй пранікнення ў праблематыку. У цэнтры аповесці М. Гіля «Вяртанне» дадзены вобраз звычайнага рабочага. Але аўтар ішоў не столькі ад жыцця, ад сённяшніх грамадскіх тэндэнцый, колькі ад літаратурнага штампу, шаблону. М. Гіль апявае пакорлівасць лёсу, грамадскую індыферэнтнасць героя. Не здолеў паказаць сацыяльныя фактары, пад уздзеяннем якіх адбываецца грамадскае ўзмужненне рабочага, і малады празаік У. Кузьмянкоў у апавяданні «Мы і дзядзька Міхей».

Захоўваючы свой першаадкрывальны, сцвярджальны характар, літаратура вяла бескампрамісную барацьбу з адсталымі тэндэнцыямі ў нашым жыцці, выкрывала ўсякае прыстасоўніцтва пад дух нашага часу. Беручы эстафету ад А. Асіпенкі, раман якога «Непрыкаяны маладзік» атрымаў станоўчую ацэнку крытыкі, Л. Арабей у аповесці «Ваўчкі» таксама імкнулася развянчаць мяшчанства. Аднак аповесці, на думку дакладчыка, бракуе дакладнай аўтарскай пазіцыі, якая дазволіла б беспамылкова вызначыць адносіны да ўзнятых пластоў жыццёвага матэрыялу.

З мінулагодніх аповесцей толькі адна — М. Даніленкі «Апанаска Лугавы» — звязана з вёскай. Галоўны герой яе — ляснік. Аповесць — творчая ўдача пісьменніка, яе вартасць у дакладным веданні рэалій, у добрым разуменні душы сціплага чалавека.

Паслярэвалюцыйнаму жыццю прысвечана аповесць С. Кухарава «Бацькавічы». Яна моцная сваёй дакументальнай асновай, але паасобныя канфлікты, шматлікія з'явы і падзеі, героі існуюць неяк самі па сабе. Адзінае ў іх хіба толькі месца дзеяння.

Мастацкай завершанасці і цэласнасці бракуе і аповесці Б. Стральцова «Вячэрняя планета». Дзве сюжэтныя лініі існуюць у творы паасобку, не сцягваюцца ў тугі мастацкі вузел. Асэнсаванне рэчаіснасці даволі павярхоўнае, разуменне псіхалогіі чалавека звужанае, неглыбокае.

Сучаснасць асэнсоўвалася і ў творах малой жанравай формы. Вялікай духоўнай культурай вызначаліся апавяданні Я. Брыля «Яшчэ раз першы снег» і «Тройчы пра адзіноту». Я. Скрыган у апавяданнях «Жыву адна з сынам» і «Факір Гійом» расказаў пра выпадкі, якія адбыліся з ім у час журналісцкай працы. Тут адчуваецца замілаванне чалавекам, павага да яго таленту, яго волі. Дакладчык адзначае таксама апавяданні Б. Сачанкі, Ф. Янкоўскага.

Дыханне сучаснасці адчуваецца ў апавяданнях А. Кудраўца, М. Капыловіча, Я. Каршукова, Л. Левановіча, У. Аляхновіча, Г. Далідовіча, Я. Пушкіна, Л. Калодзежнага.

Рэвалюцыя, першыя паслякастрычніцкія дзесяцігоддзі, калі нараджаўся новы, савецкі, чалавек, — удзячная тэма для літаратара. Цікавымі з'яўляюцца апавяданні П. Броўкі, у якіх праз прыватныя факты з жыцця пісьменніка выразна праглядваецца станаўленне тыповага характару камсамольца 20-х гадоў.

Дакладчык спыніўся на аналізе новага рамана А. Кулакоўскага «Сцежкі зведаныя і нязведаныя». Зрабіўшы пэўныя заўвагі ў адрас твора, Я. Лецка адносіць раман да значных здабыткаў прозы мінулага года — пра што сведчаць багатая, яркая мова, трапнасць, ёмістасць дэталей, натуральнасць характараў.

Адным з тых перыядаў, які працягвае інтэнсіўна асэнсоўвацца нашай літаратурай, з'яўляецца Вялікая Айчынная вайна. Асаблівую ўвагу, на думку аўтара, прыцягваюць два буйныя творы на ваенную тэму — «Хатынская аповесць» А. Адамовіча і аповесць В. Быкава «Дажыць да світання». Яны напісаны на такім ідэйна-мастацкім узроўні, які можа забяспечыць ім трывалае месца ў роднай літаратуры. Удалымі называе дакладчык апавяданні П. Місько «Поезд ішоў на захад», А. Асіпенкі «Маці», А. Жука «Белы месяц», Б. Сачанкі «Цыке», апавяданні І. Новікава.

На фоне гэтых твораў пра вайну анахранічнымі выглядаюць апавяданні М. Капыловіча «На сваім селішчы», А. Пальчэўскага «Помста», П. Кавалёва «Свет да акна», У. Карпава «О, гэтая шчырасць», «Не травамі роснымі» і інш.

Трэба сказаць, што апавяданне апошнім часам пачынае траціць тую грамадскую актыўнасць, якая ўласціва яму як найбольш аператыўнаму жанру. Выклікае заклапочанасць пэўнае таптанне на месцы, характэрнае для творчасці бясспрэчна здольных празаікаў, якія старанна пералапачваюць жыццёвыя факты, з якімі ўваходзілі ў літаратуру 10—15 гадоў назад. Адсутнасць першаадкрыцця — галоўны недахоп сучаснага апавядання.

Чым больш развітае грамадства, тым больш настойліва імкнецца яно як мага шырэй і аб'ёмней асэн-

З АРХІЎНЫХ ПАЛІЦ

## Невядомы аўтограф Максіма Багдановіча

У адным з пісем у рэдакцыю «Нашай нівы» 27 красавіка 1913 года М. Багдановіч зрабіў наступную прыпіску: «P. S. Пасылаў Коршу на 70-цілецце павіншаванне па-беларуску (звычайна, ад свайго імені). Ці пасылалі Вы?» (публікацыю гэтага пісьма гл. у кн.: М. Багдановіч. Збор твораў, т. 2, Мінск, 1968, стар. 505).

Да цяперашняга часу гэта віншаванне вядомага беларускага паэта не трапляла ў рукі да нашых даследчыкаў. Пошукі яго давялося пачаць з Архіва Акадэміі навук СССР (Маскоўскае аддзяленне). Там якраз зберагаюцца матэрыялы з асабістага архіва славутага рускага філолага—лінгвіста і літаратуразнаўцы Фёдара Яўгеньевіча Корша. У Архіве АН СССР гэтага пісьма-віншавання М. Багдановіча не аказалася, хоць там і захоўваецца вялікая колькасць матэрыялаў, што тычацца 70-гадовага юбілею Ф. Я. Корша.

Некалькі гадоў таму назад частка матэрыялаў з архіва Я. Ф. і Ф. Я. Корша ўбыла перададзена ў аддзел рукапісаў Дзяржаўнай бібліятэкі СССР імя У. І. Леніна ў Маскве (фонд 465). Да сённяшняга дня матэрыялы гэтага фонду яшчэ поўнасцю не апрацаваны. Гэта ўскладняла пэўным чынам пошукі. Але супрацоўнікі аддзела вельмі прыязна адгукнуліся на маю просьбу (шчырае дзякуй ім за гэта!). Яны паспрабавалі сярод 422 карэспандэнтаў Ф. Я. Корша адшукаць пісьмо Максіма Багдановіча. І вось з вялікім і радасным хваляваннем трымаю ў руках яшчэ адзін невядомы аўтограф нашага славутага паэта.

Аўтограф М. Багдановіча, напісаны чорным чарнілам, прыгожым роўным почыркам, выключна акуратна, сведчыць не толькі пра глыбокую пашану паэта да вядомага рускага філолага, даследчыка тэкстаў класічных аўтараў, некаторых з якіх М. Багдановіч спрабаваў перакладаць на беларускую мову, але і пра найвялікшую сціпласць аўтара віншавання, які нават не пасмеў назваць сябе паэтам, а падпісаўся як «незнаёмы беларус».

Кожны новы, невядомы аўтограф Максіма Багдановіча — вялікая каштоўнасць для беларускага літаратуразнаўства. Таму так прыемна прапанаваць яго для знаёмства чытачам (захаваны правапіс арыгінала).

**І. САЛАМЕВІЧ,**
**кандыдат філалагічных навук.**

*22 красавіка 1913 рока*

*Дзень гэты,—так пісаў Катулл,—*
*Я белым камянем адзначу...*

*Шчыра віншую Вас, вельмі шаноўны Фёдор Еўгеньевіч, і жычу, каб як мага даўжэй Вы—жылі, а мы—любоваліся Вашым жыццём.*

*Незнаёмы Вам беларус*
*Максім Богдановіч.*

## «ДУДАРЫК» НА ЛІТОЎСКАЙ МОВЕ



Творы вядомага беларускага дзіцячага пісьменніка лаўрэата Дзяржаўнай прэміі БССР Васіля Віткі добра вядомы сярод юных чытачоў не толькі нашай рэспублікі, але і далёка за яе межамі. Асабліва вялікай папулярнасцю карыстаецца вершаваная казка «Дударык». У Мінску яна выдадзена на беларускай і рускай мовах. Акрамя таго, гэты твор выходзіў на рускай мове ў Маскве, на ўкраінскай — у Кіеве, на ўзбекскай — у Ташкенце.

Незадоўга да пачатку 1973 года казка атрымала новую прапіску. «Дударык» з цікавасцю чытаюць літоўскія школьнікі. Маляўніча аформленая кніжка выйшла ў Вільнюсе. Пераклад казкі зрабіў старэйшы літоўскі паэт, даўні сябра беларускай літаратуры Альбінас Жукаўскас. Малюнкі мастакоў А. Лось і Г. Якубені.

саваць не толькі сёняшні дзень, але і сваё гістарычнае мінулае. Патрэбную справу зрабіла рэдакцыя «Полымя», апублікаваўшы гістарычную аповесць Б. Мікуліча «Адвечнае», напісаную ў сярэдзіне 40-х гадоў. Выйшаў у мінулым годзе і раман У. Караткевіча «Хрыстос прызямліўся ў Гародні».

У мінулым годзе Беларусь адзначыла 90-годдзе з дня нараджэння народных пісьменнікаў рэспублікі Я. Купалы і Я. Коласа. Творы пра старэйшых песняроў краіны — аповесць С. Александровіча «Ад гоману бароў», апавяданні В. Віткі і Г. Далідовіча — напісаны ад шчырага сэрца, цалкам пазбаўлены дзяжурнасці і скараспелай лёгкаважкасці.

Для беларускай паэзіі юбілейнага года краіны вызначальным з'яўляецца святочны, прыўзняты настрой, падкрэслівае Любоў Гарэлік. Выйшлі з друку кнігі, якія сведчаць пра глыбокае разуменне жыцця, імкненне да ўсебаковасці яго адлюстравання, палёт творчай думкі («Калі ласка» П. Броўкі, «Далёка да акіяна» А. Куляшова, «Праводзім лета» В. Віткі, «Да людзей ідучы» А. Пысіна, «Кветкі бяссмертніка» М. Арочкі, «Доля» Д. Бічэль-Загнетавай і інш.). Не забываецца спадчына тых, хто аддаў жыццё за свабоду Радзімы — «вянком на далёкую магілу ў ратным полі» стала кніга С. Крыўца «Дубок».

Заканамерным з'явіўся ў юбілейным годзе зварот да вобраза заснавальніка Савецкай дзяржавы У. І. Леніна і ў старэйшых, і ў малодшых паэтаў («Гаворыць аб гэтым» М. Танка, «Чытаючы пра Леніна» А. Зарыцкага, «Насустрач веку» У. Скарынкіна, «Ленінскія словы» Л. Дайнекі, «На лодцы» Б. Беліжэнкі і інш.).

У паэзіі нашай звонка гучала тэма адзінства беларускага народа з усімі народамі Краіны Саветаў. Старэйшы беларускі паэт П. Броўка ўвасабляе сувязь савецкіх народаў у адзінай сям'і ў вобразе «райнісавых сосен», братэрскія пачуцці беларускага народа да братніх народаў услаўляе Г. Бураўкін:

**Я ўдзячны лёсу, што ва ўсе часы**
**Мая блакітнавокая Радзіма**
**Не засланяла мне чужой красы,**
**Мяне ад свету не адгарадзіла,**
**Што не магла, не ўмела быць**
**другой —**
**Жыла ў братэрстве і сяброў**
**цаніла**
**І што ў краіне нашай дарагой**
**Яе завуць усе сястрою мілай...**

Сцвярджэнне роўнасці беларусаў у братняй сям'і народаў непарыўна звязана з уздымам нацыянальнай культуры, першымі прадстаўнікамі якой былі Янка Купала і Якуб Колас. Песнярам нашым аддалі даніну павагі ў іх юбілейны год паэты самых розных узростаў — П. Броўка і М. Хведаровіч, М. Танк і М. Лужанін, Э. Агняцвет і С. Шушкевіч, Р. Барадулін і Г. Бураўкін, А. Астрэйка і М. Арочка і многія іншыя.

Гімнам незгасальнай братэрскай дружбе народаў прагучала «Паэма прызнання» Р. Барадуліна. Глыбокі грамадзянскі пафас, бязмежнае пачуццё любві да неабдымнай Айчыны дапаўняюцца драматычным роздумам аб часе, аб перажытым, аб стратах у вайну. Тысячам Хатыняў зямлі беларускай прысвяціў паэму «Гарынь» А. Бялевіч. Найбольш эмацыянальна-дзейсна напісаны апошнія сцэны паэмы, дакладна перададзена чалавечае гора. Але не ўсе старонкі паэмы гучаць аднолькава шчыра і пераканаўча. Першая частка некалькі расцягнутая, аморфная.

Новая кніга М. Танка «Хай будзе святло» — філасофска-публіцыстычны роздум пра час, пра сябе, пра жыццё людзей на планеце. Песня М. Танка маладая і ўпэўненая, бадзёрая і свежая. Паэту падпарадкоўваюцца самыя разнастайныя сродкі мастацкага ўвасаблення. У назіральнасці М. Танка, у шырыні і глыбокай падтэкставасці яго паэтычнага светаўспрымання — народная аснова, сувязь з наднёманскімі сенажацямі, з пількаўскім ветрам, з нарачанскімі соснамі, з маці-зямлёй.

Вострая класавая барацьба, старонкі гісторыі заходнебеларускага народа ажываюць на старонках паэмы А. Бажко «Блакітныя вербы», напісанай шчыра і эмацыянальна. Развіццё сюжэту аднак не заўсёды выразнае і дынамічнае, прынамсі, у пачатку паэмы.

Роздум пра няспыннасць жыцця, неаддзельнасць чалавека і прыроды характэрны для паэмы В. Макарэвіча «Вечнае дрэва», але нярэдка за шматслоўнымі, не зусім выразнымі разважаннямі і паўторамі губляецца думка аўтара пра беражлівае стаўленне да лесу — заступніка і ахоўніка народа.

Гераічнае мінулае славянскіх народаў гучыць у нізцы Я. Сіпакова «Веча славянскіх балад».

Некаторыя праблемы нашага неспакойнага веку асэнсоўваліся ў беларускай паэзіі ў сатырычным ключы. Вострай грамадзянскай пазіцыяй вызначаецца стаўленне аднаго са старэйшых паэтаў — П. Панчанкі да розных адмоўных з'яў жыцця. Некаторыя заганныя павевы моды, сляпое іх пераймание высмеяў А. Грачанікаў. Трэба аднак сказаць, што сатырычны атрад нашай паэзіі не можа пахваліцца сваёй актыўнасцю. Асабліва гэта датычыць жанру байкі, які амаль знік са старонак нашых выданняў. Калі б не прытупілася сатырычная зброя, то, напэўна б, дасталося некаторым паэтам, у радках якіх з'яўляецца дачасная старэчая бурканіна, ныццё і г. д.

Дакладчык адзначае актыўныя пошукі маладых: Л. Дайнекі, А. Разанава, Н. Мацяш, Я. Янішчыц, М. Кусянкова і інш.

У спрэчках па дакладах выступілі М. Барсток, М. Арочка, В. Бечык, В. Гапава, Д. Бугаёў, П. Дзюбайла, якія адзначылі неабходнасць пашыраць і рабіць больш разнастайнымі формы работы творчых секцый.

*ПАЭТЫЧНАЯ ПАВЕРКА*

## Хаім МАЛЬЦІНСКІ



●

Пяюшка-птушка,
перараскоч
з далёкае галінкі,
каб лепей я разгледзець мог
і пёркі і пушынкі.
Дазволь,
я толькі зазірну
у глыб бліскучак-вочак.
Ані каменьчык не шпурну,
ні нават валасочак.
На песню сціплую тваю
ў людзей заўсёды попыт.
Спазнаць—
увесь мой клопат!—
твой паэтычны вопыт.
Як ты пяеш,
дзе ты бярэш
і трэлі і рулады?
Чаму ўсе людзі навакол—
ці з гарадоў яны ці з сёл—
табе так шчыра рады?
Я песню кожную тваю
у ясны дзень вясновы
хоць сто,
хоць тысячу разоў
гатовы
слухаць зноў і зноў,
нанова і нанова.

●

Той казы і следу
ўжо даўно няма.
І драбіны тыя
не шукай—
дарма.
Але злосць старую
на мяне ты тоіш,
паўтараеш часта
ўсё адно і тое ж
з крыўдай і пагрозай:
— Прыйдзе коза
да воза!
— Прыйдзе коза
да воза!

●

Цэлы месяц блукаў
па лясах,
па садах,
паўтараючы тое імя
па складах:
— Эс-ме-раль-да...
Заікаўся,
цвярдзіў,
покуль звёў у адно,
каб у памяці легла
на самае дно:
— Эсмеральда...
Ледзьве толькі не стаў я
блукаць па траве,
ледзьве вецер замёў
на сцяжынках сляды,
як адчуў,
што імя не жыве,
не жыве,
і разбегліся зноў
паасобку склады.
Я забыўся.
Забыўся.
Няўжо—назаўсёды?
Але іншае
ў памяць прыйшло:
— Квазімода!..
І працяла мяне,
нібы сонечным промнем:
— Эсмеральда!
Я помню!
Я помню!
Я помню!

●

Я пішу ёй лісты,
Зноў і зноў.
Падбіраю найлепшыя словы.
А сняжынкі
даўно сівізной
ёй кладуцца на бровы.
І так міла на вуснах яе
той пушок—
той сняжок
растае.
Вось каб гэтак
на сэрца ёй
клаліся словы мае!
А яна мне ў адказ
кожны раз—
неінакш:
— Што за почырк у вас?!
Нібы ў графа
ці проста—дзіцячы...
Снег ахутаў лясы і кусты.
Пабяліў і палі і шашу.
Я пішу ёй лісты.
Зноў пішу і пішу.

Пераклаў з яўрэйскай А. ВОЛЬСКІ.



# ЧАРАЎНІК СЛОВА

**4** ЛЮТАГА спаўняецца сто год з дня нараджэння пісьменніка Міхаіла Міхайлавіча Прышвіна, аўтара «Крыніц Берандзея» і «Карабельнага гушчара». Яго замалёўкі прыроды — жывое адлюстраванне яе ў развіцці і руху. Адчуванне рэальнай прыроды ў Прышвіна перадаецца з такой сілай, што часам здаецца, быццам у творы вось-вось пачуецца чыйсьці голас.

Ды і дзе, як не ў лесе, як не ў краі непалоханых птушак ці ў сібірскай тайзе, можна навучыцца слухаць і назіраць. Менавіта там. пісьменнік адкрыў шмат непаўторнага як у прыродзе, так і ў самім чалавеку, бо ён быў не толькі вялікім знаўцам прыроды, а і мысліцелем, філосафам.

Прышвіну належыць трапны выраз «вясна святла», якім мы цяпер шырока карыстаемся. Азярцы ён вобразна называе «вачыма зямлі». Асеннія прыгажуні-бярозкі ў яго, як дзяўчынкі-гарэзы, выбягаюць на палянкі, каб іх усе заўважылі, а зімою яны азябла ціснуцца да зялёных хвоек. Рухавыя сінічкі размаўляюць паміж сабою на зразумелай чалавеку мове. Амаль усе творы пісьменніка насычаны водарам дрэў, траў, вады, асветлены сонцам.

Прышвін пісаў: «Прырода любіць аратага, спевака і паляўнічага». Такім быў і сам пісьменнік. Таму, прырода асабліва шчыра адкрывала перад ім свае таямніцы, а вялікая мастацкасць і каштоўнасць прышвінскіх твораў тлумачыцца тым, што ён пісаў аб тым, аб чым не мог не пісаць. Пісьменнік часта ўжываў такі выраз: «Люблю—пішу».

Некаторыя крытыкі папракалі Прышвіна ў тым, што ён за прыродай не заўважае чалавека, або, інакш кажучы, быццам чалавек губляецца сярод яе. Але гэта зусім не так. Яшчэ М. Горкі, які вельмі паважаў Прышвіна, адхіліў гэты пункт гледжання на яго творчасць. Ды і сам пісьменнік у сваіх творах прызнаваўся: «Я пішу аб прыродзе, а думаю заўсёды аб чалавеку».

Прышвін быў вялікім патрыётам сваёй Радзімы. Хто не ведае яго крылатых слоў: «Любіць прыроду — любіць Радзіму». Пісьменнік заклікаў піянераў берагчы кожнае дрэўца і кусцік, не крыўдзіць птушак і звяркоў, клапаціцца аб слабым і малым, незалежна ад таго, хто гэта: птушанё, звераня ці расліна.

Шмат напісана Прышвіным за паўвекавы творчы шлях. Шмат кніг было выдадзена і перавыдавалася пры жыцці пісьменніка, але значная частка рукапісаў засталася. «Мілы друг, калі ты перажывеш мяне, збяры з лісткоў гэтых букет і кніжачку назаві «Незабудкі». Так пісаў Міхаіл Міхайлавіч жонцы і другу свайму Валерыі Дзмітрыеўне Прышвінай. Гэтае завяшчанне выканана. Спачатку была падрыхтавана і выдадзена кніжка «Вочы зямлі», а не так даўно выйшлі і «Незабудкі».

Не сціхаюць галасы на прышвінскай сцежцы. Цяпер на ёй сустракаюцца, сыходзяцца і разыходзяцца розныя падарожнікі — Д. Зуеў і Ул. Салаухін, В. Пяскоў і І. Палуянаў, М. Сладкоў і Г. Снегіроў. У літаратуру яны прыйшлі са сваім успрыняццем жыцця. І яно аказалася чымсьці блізкім Прышвіну ў паэтычных адносінах да прыроды і палымянай любві да сваёй Радзімы.

**Рыгор ІГНАЦЕНКА.**

## У СЕКЦЫІ ПАЭЗІІ

Адбыўся перавыбарчы сход секцыі паэзіі СП БССР. Удзельнікі сходу заслухалі справаздачу старшыні секцыі М. Аўрамчыка. У абмеркаванні прынялі ўдзел народны паэт рэспублікі М. Танк, П. Макаль, А. Грачанікаў, М. Арочка, А. Вярцінскі і інш. Старшынёй секцыі абраны А. Вярцінскі.

Зацверджана рэдкалегія зборніка «Дзень паэзіі — 1974». Галоўным рэдактарам абрана Е. Лось.

## У РЭДАКЦЫЮ ШТОТЫДНЁВІКА «ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

*Дазвольце на старонках Вашай газеты выказаць глыбокую ўдзячнасць партыйным і савецкім органам, установам і прадпрыемствам, усім таварышам, якія павіншавалі мяне з нагоды майго 50-годдзя і ўзнагароджання Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета Беларускай ССР.*

**Алесь ШАШКОЎ.**

●

*Выказваю сардэчную падзяку ўсім установам, калектывам і сябрам, якія ўспомнілі мяне добрым словам з выпадку майго пяцідзесяцігоддзя і ўзнагароджання Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета БССР.*

**Мікола ВАДАНОСАЎ.**



Выступае пастаноўшчык фільма Ігар Дабралюбаў.

**я не бачыла, не перажывала тых цяжкасцей, якія перажылі мае старэйшыя таварышы. Аднак калі глядзіш фільм, то адчуваеш і верыш, што менавіта так і было. У кожным персанажы нібы пазнаеш сваіх настаўнікаў, сваіх дарадчыкаў, тых, хто сёння ідзе побач з намі або наперадзе нас.**

**І я з усёй перакананасцю магу заявіць, што фільм «Вуліца без канца» — гэта наш фільм. Гэта як помнік працоўнаму подзвігу нашых бацькоў, старэйшых братоў і таварышаў. Няхай жа вуліца нашага горада, нашага жыцця будзе сапраўды бясконцай, прамой, светлай, якой яна паказана ў гэтым фільме...**

Параўноўваючы экранныя вобразы з рэальнымі, фільм з рэчаіснасцю, Каця Васільева не памылілася. У яго аснове, як гаварылася ў пачатку, рэальныя падзеі. Ды нават адно тое, што кіназдымкі амаль цалкам праводзіліся ў адным горадзе, надае стужцы рысы мастацкага дакумента. Праўда, аўтары загадзя папярэджваюць: маўляў, не шукайце ў нашым фільме сваіх знаёмых, бо гэта мастацкі твор. І ўсё ж такі... пазнаюць, пазнаюць, пазнаюць...

Так было з «Камсамольскам», дзе рэжысёр С. Герасімаў захаваў нават сапраўдныя імёны і прозвішчы. Прыгадаем: Пётр Алейнікаў выконваў ролю самога... Алейнікава.

«Вуліца без канца» — своеасаблівы працяг «Камсамольска» на жыццёвым матэрыяле нашых дзён.

### СУСТРЭЧА З РАВЕСНІКАМІ

Ідучы па слядах бацькі, Русанава трапляе ў асяроддзе моладзі, да такіх, як сама, ці крыху старэйшых. Тут ёй наладжваюць штосьці накшталт «прэс-канферэнцыі». Сыплюцца пытанні. Нехта нават кінуў рэпліку: а можа гэта не яе бацька.

Калі дзяўчыне падаюць шкляную банку, г. зн. «мікрафон», то чакаеш, што яна за гэткую знявагу шпурне яе пад ногі. Бо імправізаваная канферэнцыя ўспрымаецца як здзек з Русанавай і памяці яе бацькі.

Маладзёжная тэма займае ў фільме значнае месца. Ды па сутнасці ён увесь маладзёжны.

**І пра гэта цікава сказаў глядач, ветэран Вялікай Айчыннай вайны М. Шкатаў:**

**— Мне вельмі спадабаўся адзін з эпізодаў — праводзіны нашых хлопцаў у Савецкую Армію. Яны паказаны як урачыстасць, як вялікае свята. Так, свята наша ўсеагульнае! Бо нам трэба не толькі добра працаваць, але і абараняць нашу мірную стваральную працу. Такіх эпізодаў у фільме многа. Стужка будзе мець вялікае значэнне для патрыятычнага выхавання моладзі... Фільм хвалюе сваёй шчырасцю, цеплынёй. Ён прымушае думаць, разважаць, параўноўваць экранныя вобразы з тымі, якія сустракаеш кожны дзень у нашым горадзе, на нашых вуліцах, прадпрыемствах і ўстановах. Сюжэт просты, зразумелы ўсім нам. З цікавасцю сочыш за лёсам герояў...**

### ЯРОНЬКА

Нарэшце Оля Русанава сустракаецца з пажылым чалавекам — Яронькам (артыст Б. Кудраўцаў). Ён запамінаецца нам ужо з першых кадраў, калі бяжыць насустрач трактару, які рухаецца на лазню, каб разбурыць яе. «Я сам будаваў лазню,—крычыць ён і паказвае на Кавалеўскага, — ты таксама будаваў. Тут першыя будаўнікі мыліся». І Кавалеўскі адмяняе загад. Лазня застаецца.

...Ад Яронькі Оля даведваецца, пры якіх абставінах загінуў бацька. Яны плывуць на лодцы. Дзяўчына бярэ ў прыгаршчы ваду з тае ракі, якая некалі стала магілай яе бацькі. Эпізод на рацэ — вельмі эмацыянальны.

Аднак далейшыя падзеі ў фільме выклікаюць і пратэст. Справа ў тым, што Оля на гарадской плошчы ў часе праводзін хлопцаў у Савецкую Армію пачынае танцаваць ды яшчэ пад вядомую песню Я. Фрэнкеля «Жуpавы». Ці тактоўна гэта наогул? Ды яшчэ і ненатуральна для Олі. Акрамя таго, Яронька толькі што расказаў ёй пра абставіны смерці бацькі, а яна, бачыце, пайшла танцаваць. Дзе ж тут логіка?

Гэты эпізод у некаторай ступені згладжваецца цудоўнай песняй Э. Калманоўскага (яе выконваюць «Песняры»). А па шырокай вуліцы ідзе ўсё тая ж чацвёрка з фатаграфіі і яна, Оля Русанава...

Так закончыўся Олін дзень. Дарэчы, усе падзеі разгортваюцца на працягу аднаго дня. Варта, мусіць, паспрачацца, ці можна ўкласці такую колькасць падзей у адзін дзень...

**Праўда, гэтыя нататкі пішуцца адразу пасля прагляду фільма. Крытыка яшчэ будзе абмяркоўваць новую стужку І. Дабралюбава. Мне хацелася тут перадаць «настрой» тых, хто «пазнаў» на экране сябе і сваіх сяброў, свой горад і сваю будоўлю. Як у люстры, ззяе на экране і прыгожая Дзвіна...**

Новая карціна беларускіх кінематаграфістаў прысвечана рабочаму класу. Не ўсё, вядома, зроблена так, як гэтага хацелася б. Пра недахопы ў той ці іншай ступені было сказана. Аднак агульнае ўражанне гледачоў на прэм'еры было станоўчае: фільм атрымаўся. Гэта хвалюючая кінааповесць, прасякнутая духам аптымізму, высокім эмацыянальным напалам, светлай верай у чалавека — нашага сучасніка.

У пачатку стужкі замест эпіграфа ідуць такія словы: «Дзякуем жыхарам Навапалацка, якія разам з намі працавалі над фільмам».

А сёння яго героі — рабочыя Нафтаграда — узнагароджваюць кінематаграфістаў гарачымі апладысментамі. Гэта і ёсць вялікае, заслужанае прызнанне іх творчага поспеху.

**Алесь МАЦКЕВІЧ.**

---

АКЦЁРЫ І РОЛІ

# ЖЫВУЧАЕ І НЕСМЯРОТНАЕ

Калі б усіх герояў Аляксандра Мікалаевіча Астроўскага пасадзіць гледачамі ў наш купалаўскі тэатр, то ў зале не было б дзе павярнуцца. Столькі твораў, столькі характараў!.. Ды што я кажу — яны б нам усе крэслы папераламалі: кожны хацеў бы хутчэй паказаць сябе, чым на людзей пaглядзець. Ну, а замяніць іх акцёрамі разам з усімі дублёрамі немагчыма, бо для ўсіх нас, хто хоць раз быў заняты ў спектаклі па п'есе Астроўскага, можа і на стадыёне стала б цесна... Кожны з нашага сцэнічнага асяроддзя заўсёды ганарыўся, калі атрымліваў ролю ў класічнай камедыі ці драме несмяротнага драматурга. Як я сябе помню, на маім шляху таксама было нямала працы над вобразамі (або ў эпізодах, калі я яшчэ не «дарастала» да самастойнага вобраза) у пастаноўках спадчыны Астроўскага Рахленкам, Ждановіч, Эрыным, Літвінавым і іншымі нашымі рэжысёрамі. Найперш выступала я ў ролі Глафіры («Ваўкі і авечкі»); потым падмяняла Лідзію Іванаўну Ржэцкую ў «Познім каханні»; потым, разам з Верай Мікалаеўнай Пола, была Манефаю ў спектаклі «На ўсякага мудраца хапае прастаты» — ёсць там такая «кабета, што займаецца варажбой і прадказаннямі».

**Падумаеш цяпер, уявіш той свет, створаны А. М. Астроўскім, і жахнешся ад адной думкі: як людзі маглі так жыць... Такая дзіч, непраглядансць, цемрашальства. Які талент трэба было мець, каб не задушыцца ў тым асяроддзі, а ўзняцца над ім і так яскрава паказаць душу і норавы расійскага купца — як гэта змог Астроўскі,**

**Многае з таго свету ўжо і незразумела сённяшняму гледачу. Таму, відаць, маюць рацыю рэжысёры, калі даюць асобныя карціны з п'ес Астроўскага, як інтэрмедыі, як фон ці напамінак пра гістарычныя абставіны дзеі (так зрабіў і рэжысёр Ц. Кандрашоў у пастаноўцы «Апошняй ахвяры» ў нас, у купалаўцаў). Але характары не старэюць, не так хутка перайначваецца парода чалавечая, і тыя ж купецкія выхілкі можна ў перайначанай форме назіраць і сёння ў некаторых людзей — супраць іх і накіравана, у першую чаргу, джала смеху выдатнага драматурга.**

«Апошняя ахвяра» на сцэне Акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы адметна, як мне здаецца, выступленнем Ліліі Давідовіч у галоўнай ролі Юліі. Актрыса тут такая чароўная, такая чыстая, такая ўзнёслая — забываешся, што гэта ўдава Юлія Паўлаўна Тугіна, купчыха! Ёсць акцёрскія абліччы, якія «прасвечваюць» праз любую сцэнічную апратку. Нават у ролі нягодніка такі акцёр (ці актрыса) нібы кажа: то які я на гэты раз кепскі, але што ж зробіш, каб не тое, ці іншае ў жыцці майго героя, ці ж выглядаў бы я нягоднікам? Рысы адмоўнага вобраза ён «нажывае» на сцэне, не прыходзіць з імі з-за куліс, а тут, перад гледачамі, нібы ўпершыню робіць злое, і яно — уваччу, перад гледачом — асядае на душу героя. Гэты метад стварэння вобраза працістаіць, як мне думаецца, даўнейшаму: я — акцёр, толькі паказваю вам мярзоту...



Заслужаная артыстка БССР, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР Л. Давідовіч у ролі Юліі Тугінай.

Лілія Давідовіч. прывабная ў жыцці, гэтую прывабнасць захоўвае ў любой ролі. Нешта падобнае зазначыў Гогаль у сваёй «Майскай ночы». Калі памятаеце, вядзьмарка, зацягнутая ў ваду русалкамі, і сама ператвараецца ў русалку. І толькі, калі гуляе ў «ворана», яна з такой асалодаю кідаецца на нявінных куранят, што скрозь празрыстую бель русалчынага ўбору на момант прасвечвае нешта чорнае — па гэтым і пазнае яе хлопец. Русалчына празрыстасць свеціцца праз любы, самы чорны сцэнічны ўбор Ліліі. Хто не помніць яе Ганну з «Людзей на балоце»?! Яна прыйшла некалі на радыё, а тады ў тэлевізійны фільм і на сцэну такая свежая і чароўная, што я знарок, перачытваючы раман І. Мележа, заплюшчвала вочы, калі даходзіла да слоў Ганны, бо ведала іх, і хацела іх чуць яшчэ раз толькі з голасам нашай Ліліі Давідовіч. І калі Ганна рабіла «абы-што», як здавалася нам, чытачам і гледачам, то ёй не хацелася верыць: так палюбілі мы яе спачатку, ад першых слоў, ад першых тонаў яе непаўторнае мовы, ад першых позіркаў і нават за саму яе паставу.

З разлікам на Лілію Давідовіч і пастаўлена «Апошняя ахвяра» ў нас: лёгкая і прыгожая ідзе Юлія па сцэне, са свечкаю, як здань... І тым больш выразна і кантрастна паўстае перад намі купчыха, удавіца, калі гаворыць яна нарэшце не пра пачуцці і мроі, а пра тое, што неад'емна ад яе — пра страчаныя грошы і маёмасць.

**Мне даводзіцца быць «пры Юліі» разам з маёй Міхееўнай, старой ключніцай Юліі», паводле Астроўскага. Тут часам дзівяцца, чаго гэта Станюта згорбілася, а лётае па сцэне, як маладая. Мне думаецца, што такой Юліі, як Давідовіч, трэба прыслужваць толькі так, аж увіхацца. Ці ж не варта яна таго? А я даўно заўважыла, што людзі ўрочныя, калекі ці з якім фізічным недахопам, ніколі не скардзяцца на свае хваробы ці нядужасць у рабоце (як гэта часам робяць тыя, каго «і даўбнёю не заб'еш»). Вось чаму і мая Міхееўна гатова зубамі зямлю грызці, каб даказаць сваю адданасць гаспадыні, пераканаць, што ніхто так не служыў бы інтарэсам Юліі Тугінай, як сама Міхееўна...**

Мяне хвалюе шчырасць, з якой іграе Л. Давідовіч самыя складаныя, вельмі супярэчлівыя па эмацыянальных адценнях сцэны спектакля — скажам, гаворку Тугінай з Прыбытковым пра грошы, калі жанчына вымушана намякаць, што яна «аддзячыць» старому мужчыне. Збянтэжаная і валявая, свавольная і пакорлівая — якая яна неадназначная тут! Або сутыкненні з Дульчыным, які перастаў ужо «належаць» ёй — як беражліва і сарамліва «дакранаецца» Л. Давідовіч да запаветных пачуццяў гераіні. Хай жыццё вымушае яе Тугіну скарыцца перад грашыма, натура яна ў душы цэласная, высакародная. Толькі вось не ведае яна іншага шляху для помсты Дульчыну, няма для яе іншага выйсця... Яшчэ адна трагедыя «жанчыны Астроўскага» гучыць на купалаўскай сцэне надзвычай пранікнёна і ў фінале спектакля, дзе Л. Давідовіч нібы разгортвае новую старонку жыцця Тугінай — без радасці, без сардэчнай шчырасці, пад пільным вокам Прыбыткова. Не, не заспявае гэтая душа ў той «залатой» клетцы. Такое адчуванне застаецца, быццам Тугіна назаўсёды сагнала са свайго твару ўсмешку, заціснула салаўіныя інтанацыі ў голасе...

Гэта — хвалюе. Гэта — узрушае.

Ролю Юліі ігралі розныя вядомыя актрысы, пачынаючы з першага выканання Г. Фядотавай у Малым тэатры пад час прэм'еры гэтай камедыі ў 1877 г. Бачыце, амаль сто гадоў не старэе на сцэне Юлія Тугіна. Часам толькі «падналяецца», часам «маладзіцца». Дарэчы, і ў нашым тэатры яна набыла новае аблічча, як мне думаецца, таксама вельмі цікавае: Таццяна Назараўна Аляксеева выступае цяпер у галоўнай ролі «Апошняй ахвяры». Яна больш купчыха, больш удава (што, відаць, бліжэй да Астроўскага). Але асаблівасці Юліі ў новым акцёрскім тлумачэнні лішні раз сведчаць пра невычэрпнасць творчай спадчыны Аляксандра Мікалаевіча Астроўскага, чый талент не баіцца саперніцтва і штогод асвятляецца новай рэжысёрскай знаходкай, новым акцёрскім адкрыццём.

**Стэфанія СТАНЮТА,**
**народная артыстка БССР.**

# СІНІМ АДВЯЧОРКАМ

*НАВЕЛА*

## Антон АЛЕШКА



**1 лютага споўнілася 60 год з дня нараджэння пісьменніка. І хоць яго няма побач з намі, аднак засталіся творы, якія па-ранейшаму хвалююць значнасцю сваіх тэм, іх глыбокім раскрыццём. У другой кніжцы часопіса «Полымя» за гэты год друкуюцца ўрыўкі з незакончанага рамана пісьменніка.**

**Прапануем ўвазе чытачоў адно з неапублікаваных апавяданняў Антона Алешкі.**

...Калі я скончыў інстытут, мяне адразу паслалі ў Ятвезь загадчыкам раённага аддзела аховы здароўя. Спраў было многа, але што яны значылі ў параўнанні з той энергіяй, якая бурліла ва мне. Працаваў я з такой ахвотай, што нават вельмі часта заседжваўся ў кабінеце да самага вечара, а ў галаве нараджаліся ўсё новыя і новыя планы, мерапрыемствы, якія я павінен быў правесці ў сваім раёне.

Аднойчы я так запрацаваўся, што нават не заўважыў як скончыўся рабочы дзень. Падняўшыся з-за шырокага стала, згроб паперы ў скрыню і, разглядаючы сябе, як у люстэрку, у шыбе адчыненага акна, раздумваў куды зараз пайду, каго ўбачу, што скажу. І тут жа пачуў стук у дзверы.

Не паспеў азвацца, як на парозе ўжо стаяла дзяўчына ў новым сінім касцюме. Акінула позіркам кабінет, падышла да стала і паклала на яго край бліскучы, арэхавага колеру, партфель.

— Давайце знаёміцца, — сказала яна і працягнула руку. — Інспектар аблздрава Заніна Нона Аляксандраўна.

Забыўся я на ўсе свае планы і вельмі ветліва назваўся, паціскаючы прыгожую дзявочую руку.

— Праездам заглянулі да нас ці спецыяльна выбраліся з вобласці?

— І спецыяльна і з вобласці, — голас Ноны Аляксандраўны вельмі прыемны, грудны, а позірк сініх вачэй з-пад доўгіх веяў надта ўважлівы.

— Цудоўна! — расшаркаўся я, як галантны кавалер, і зірнуў на гадзіннік. — Рабочы дзень даўно закончыўся, і мы можам, калі ў вас няма пільнага службовага інтарэсу, паклапаціцца наконт гасцініцы, а пасля агледзець наш горад, — прапанаваў я.

— У гасцініцы я ўжо была, заняла нумар. Працаваць пачнём з заўтрашняга дня. Што датычыць вашай прапановы — паглядзець горад, то я заўжды гатова.

Я пакланіўся нізка, і мы, спусціўшыся па каменных прыступках з другога паверха, апынуліся на залітай стомленым сонцам вуліцы і пайшлі цераз плошчу.

Нона Аляксандраўна азіралася на своеасаблівую архітэктурную забудову цэнтра горада, а я бесцырымонна разглядаў сваю спадарожніцу. І чым больш я на яе глядзеў, тым больш яна мне падабалася.

«Што значыць шэры кабінет райздрава ды яшчэ вокнамі на поўнач, — думаў я. — Зайшла дзяўчына, як дзяўчына, а вось выйшла на сонца і, калі ласка, — карціна!»

Я не патрапляў у нагу. Папраўляючы гальштук, кашлянуў. Аднак аніякай увагі на мяне.

Агледзеўшы плошчу, Нона Аляксандраўна пахваліла нашых будаўнікоў, і я канчаткова ўпэўніўся, што яна ніколькі не зацікавіцца маёй асобай.

«Не хоча глядзець на мяне — і не трэба», — падумаў я, а ўголас сказаў зусім іншае.

— У нашай раённай бярлозе не часта даводзіцца пачуць жывое слова калегі з цэнтра або з вобласці.

— Гэта бярлога? — Нона Аляксандраўна спынілася і прыгожым жэстам яшчэ больш прыгожай рукі паказала ўздоўж алеі, нібы запрашала мяне танцаваць. — Я не згодна.

За ўсё наша знаёмства цяпер яна першы раз па-сапраўднаму сустрэлася з маімі позіркам і лёгка вытрымала яго. У глыбокай сіняве яе вачэй раптам блiснулі і заіскрыліся яркія агеньчыкі, але пакуль я, непаваротлівы, думаў, што б гэта азначала, яна цікавала ўжо на вершаліны ліп.

— Вы сказалі, што хацелі б часцей бачыць калегаў з вобласці. Добра. Я буду сюды часта прыязджаць, — безапеляцыйна, як аб даўно вырашаным, сказала яна.

— Няўжо?! — узрадаваўся я. — Аншчаслівіце правінцыяла!

Нізкае сонца пранізвала сваімі праменнямі купчастыя кроны дрэў, і ў залацістым святле яго не варушыўся ні адзін лісток. А мы ўсё ішлі і ішлі. І калі над самым гарызонтам убачылі ружовы, зусім не балючы для вока, вялізны шар сонца, то ўнізе перад намі ўжо свяцілася ртуццю рака, а з сенажацей дыхаў надвячоркавы свежы ветрык. Мы спыніліся на абрывістым беразе.

Нона Аляксандраўна ўзняла вочы на сіні да чарнаты сасняк, які стаяў адразу за дарогай.

— У санаторый ездзіце?

— Яшчэ ніколі не ездзіў, але збіраюся, — адказаў я, не ведаючы, навошта гэта ёй. — Думаю на Каўказ.

— Я так і ведала.

— А што такое?

— Правінцыял, — глянула яна на мяне, і цяпер я вытрымаў яе позірк. — Гэта ж вось тут трэба пабудаваць санаторый і лячыць людзей хвойным элексірам, эстэтатэрапіяй, так сказаць, прыгажосцямі прыроды.

Узялася за маё плячо і паказала за рэчку.

— Хто на гэты конт зробіць патрэбныя разлікі і абгрунтаванні? — На ўсе вочы разглядала мяне Нона Аляксандраўна, стоячы насупраць. — Чакаеце, пакуль гэта зробіць прыезджы калега? Не чакайце. Закасвайце рукавы і працуйце. Калі спатрэбіцца дапамога — я да вашых паслуг, — прыгожая рука легла на лацкан сіняга пінжака, які вельмі адтатуршчваўся на яе грудзях.

У гэты момант я зазлаваўся на мадэльера, які ўпершыню выдумаў для жанчын сіні касцюм. Гавораць, быццам бы ён абавязкова патрэбны для афіцыйных прыёмаў асобам, якія знаходзяцца на пасадах загадчыкаў, дырэктараў... Нібы сіняя форма надае жанчыне болей дзелавітасці і гэтым яна выйграе на сваёй рабоце. А калі падумаць па-сапраўднаму, то нічога не надае, а адбірае — грацыю, жаноцкасць.

І вось цяпер гэты самы сіні касцюм скрадваў лініі грацыі Ноны Аляксандраўны. Вось вам і сіні касцюм!

— Прыгожае мы шукаем за гарамі, за марамі. Не бачым свайго дабра пад самым носам. Я не гавару пра вас, пра сябе. Гэтым хварэюць бывалыя людзі, якія, вярнуўшыся з-за мяжы, уздыхаюць: «Ах, Швейцарыя!.. Ах, Італія!..» А зазірне такі турыст у наш цудоўны лес і наломіць, як варвар, насмеціць, як дачнік. Скажыце, чым не Швейцарыя? — паказала на лес, на светла-сіні далягляд, за які закочвалася сонца, пакінуўшы нам, быццам для апошняга развітання, адзін толькі чырвоны акрайчык.

У гэты момант я нібы яе вачамі глянуў на наваколле і надзвычай здзівіўся яго прыгажосці. Яна, канечне, мела рацыю.

— Працуйце, калега, з позіркам у будучыню. Хачу быць сааўтарам праекта санаторыя на гэтым месцы, — жартаўліва паказала яна на ўскрай лесу, які паволі захінаўся сінявою змроку.

— З вамі я гатоў гару зрушыць з месца, — адказаў у тон я і лёгенька ўзяў пад руку сваю спадарожніцу. — Паглядзім горад з гэтага боку і пры электрычным асвятленні. Згода?

Нона Аляксандраўна пагадзілася, і я ўзяў кірунак на рэстаран. Мы там павячэралі і, нахадзіўшыся добра па начных вуліцах горада, спыніліся каля гасцініцы. Не ведаю як Ноне Аляксандраўне са мной, а мне з ёю не хацелася развітвацца. Я штосьці ёй расказваў пра свой інстытут, і яна шчыра шкадавала, што не разам са мной вучылася. І ў той жа час я ўсё думаў над праектам санаторыя...

Нарэшце мы развіталіся. Шчыра прызнаюся, што гэтую ноч я вельмі мала спаў. Спісаў чортведама колькі паперы, выкладаючы прыгажосці прыроды свайго прыгарада, расказаў, што ў нас з-пад берагу б'юць магутныя крыніцы мінеральных вод. Так добра ўсё абгрунтоўвалася, што хацелася спяваць, скакаць. Во і напаў на цікавую справу!

А калі заснуў, то ўвесь час перада мной праходзілі карціны прыроды незвычайнага хараства. Не Крыма ці Каўказа, а нашыя, мясцовыя. І сярод іх абавязкова бачыў я Нону Аляксандраўну ў квяцістай сукенцы. Як клапатлівая настаўніца, яна штосьці тлумачыла, нават з дакорам выгаворвала, смяялася.

Прачнуўшыся раніцай, я доўга разважаў, што б усё гэта значыла. Інспектарка, канечне, прыехала не за тым, каб я яе сніў або зусім не спаў, і, калі толькі захоча, то за адзін дзень наробіць столькі заўваг і падначаленым і па гісторыях хвароб, што наступную ноч я буду спаць, як кажуць, без задніх ног.

Аднак сваёй прапановай наконт санаторыя яна дала мне магутны імпульс: я зрабіўся сам не свой. Усё ў маёй галаве закруцілася, захадзіла, усё, здаецца, засяродзілася на абгрунтаванні праекта. І раніца выдалася незвычайная, і, здаецца, сонейка свяціла ярчэй, і кветкі пахлі не так, як кожны дзень. І людзі на вуліцы былі прыгажэйшыя.

Я ішоў на работу, раскланьваўся са знаёмымі і незнаёмымі, адчуваючы, што яны таксама заўважылі перамены, што адбыліся са мной.

«Пачакайце, — думаў я — Скора і пра мае справы пачуеце. Быць таго не можа — праслаўлю свой раён».

Не паспеў я ўсё раскласці па паліцах у сваёй гарачай галаве, і хоць крыху супакоіцца, як у кабінет, як і дамовіліся, мінута ў мінуту, увайшла Нона Аляксандраўна—бадзёрая, свежая і, калі не падводзіць памяць, вельмі вясёлая, не такая, як учора, аднак не ў квяцістай сукенцы, як мне снілася, а ўсё ў тым жа сінім касцюме.

Мы хутка склалі план нашай сумеснай работы. Ёй трэба было праверыць тры мае ўчастковыя бальніцы на працягу двух дзён.

Я падхапіў машыну санэпідстанцыі, і мы рушылі ў дарогу. Да абеду праверылі адну і пад вечар дабраліся да другой участковай бальніцы. Работа ішла вельмі зладжана. Ніякіх спрэчак не было. Што ёсць, тое ёсць — усё аб'ектыўна! Я не згладжваў недахопаў, якія, безумоўна, былі, не спрачаўся, бо бачыў, што ў Ноны Аляксандраўны складвалася добрае ўражанне. Зразумеў, што калі работа ў нас пойдзе і далей так, то мы да заўтрашняга абеду лёгка разлічымся з другой бальніцай. У думках жа быў за трыццаць кіламетраў адсюль, на беразе рэчкі, каля свайго горада. Мне выразна чуўся манатонны гоман высозных соснаў, уяўлялася шырокая веранда будучага галоўнага корпуса санаторыя. Ад яго ў глыб лесу веерам разыходзіліся асфальтаваныя алеі да лячэбных і жылых карпусоў. Як цудоўна ўсе гэтыя дні працавала мая фантазія!

У трэцюю бальніцу мы прыехалі на другі дзень пасля поўдня. Агледзелі і праверылі ўсё як след, напісалі вывады і ўжо, так сказаць, пасля работы, ідучы ў кабінет галоўнага ўрача, нечакана заспрачаліся наконт дыягностыкі. Гучна гамянілі мы на алеі, на ганку, не спыніліся і тады, калі селі поруч на канапе ў кабінеце.

Можна сказаць, у самы разгар спрэчкі Нона Аляксандраўна раптам войкнула і адкінула галаву. Я адразу ж падтрымаў яе.

— Што з вамі?

— Тут, — паказала яна на жывот, заплюшчыўшыся, — вельмі баліць нешта...

Я хуценька паклаў Нону Аляксандраўну на канапу. Спалохаўся.

Зусім нячутна ўвайшоў у кабінет галоўны ўрач бальніцы. Я шэптам называў захворванні, лекі, якія патрэбна ўжыць... Ён кіўнуў і, нахіліўшыся, шапнуў мне на вуха:

— Прынясу грэлку...

# ГОМЕЛЬШЧЫНА — КРАЙ ПЯВУЧЫ

*РАСКАЗВАЕ ЗАСЛУЖАНЫ ДЗЕЯЧ КУЛЬТУРЫ БССР А. ЛУКОМСКІ*

Ужо шмат гадоў Гомельская вобласць з'яўляецца адной з найбольш «пявучых» у Беларусі. Такія яе хоры, як Азершчынскі, Тураўскі, Юравіцкі, «Дняпро» і шмат іншых набылі заслужаную вядомасць не толькі ў рэспубліцы, але і далёка за яе межамі. Здабыткі харавой культуры сярод калектываў мастацкай самадзейнасці Гомельшчыны ўсё больш павялічваюцца як за лік пашырэння колькасці аматарскіх хораў, так і павышэннем мастацкіх якасцей кожнага з іх. Калі раней 20—25 выканаўцаў лічылася ўжо сапраўдным хорам, то зараз працуюць калектывы з 40—60 чалавек. Усё большае месца займае ў рэпертуары харавых калектываў класічная спадчына, разгорнутыя формы харавога спявання. Калектывы працягваюць працаваць над стварэннем уласных песень, набываюцца новыя сцэнічныя касцюмы. Усё гэта гаворыць аб тым, што харавая самадзейнасць мае адпаведнае месца ў культурным жыцці гарадоў і вёсак вобласці.

Самае свежае ўражанне ад аматарскіх хораў звязана ў мяне з удзелам у рабоце журы абласнога фестывалю мастацкай самадзейнасці, прысвечанага 50-годдзю ўтварэння СССР. За дні агляду перад намі прайшло столькі розных хораў і па творчаму абліччу, і па тэрытарыяльнай прыналежнасці, што ёсць пэўныя падставы зрабіць некаторыя абагульненні пра стан харавой самадзейнасці ў нашай вобласці.

Цяпер у харавікоў Гомельшчыны наглядаюцца як бы дзве плыні — фальклорныя калектывы, што імкнуцца паказаць песню ў яе першапачатковым выглядзе такой, якой яна нарадзілася ў народзе, і хоры, рэпертуарам якіх з'яўляюцца творы вядомых кампазітараў або самадзейных аўтараў. Трэба адзначыць, што і фальклорных ансамбляў становіцца ўсё больш. Іх кіраўнікі і выканаўцы аднаўляюць часам вельмі цікавыя традыцыйныя беларускія народныя песні, якія шырокай грамадскасці амаль што былі невядомыя.

Нагадаю этнаграфічную замалёўку беларускага вяселля ў выкананні ўдзельнікаў мастацкай самадзейнасці Глыбаўскага сельскага дома культуры Рэчыцкага раёна. Тут трэба адзначыць і яркія фальклорныя мелодыі, і непасрэднасць пачуццяў, і шчырасць выканаўцаў гэтага цікавага ўзору народнага жыцця. Вялікі ўплыў на яркасць успрымання такіх самабытных народных відовішчаў аказваюць, безумоўна, таксама цудоўныя нацыянальныя касцюмы фальклорных калектываў. Яны ўражаюць прыгажосцю фарбаў, багаццем адценняў, своеасаблівым малюнкам. Няблага было б, каб нашы прафесійныя мастацкія ансамблі выкарысталі ў сваёй канцэртнай практыцы ўсю гэтую прыгажосць народных тэатралізаваных абрадаў, у тым ліку і непаўторнасць касцюмаў.

Што датычыць самадзейнасці харавых калектываў, аснова рэпертуару якіх — прафесійныя творы, тут наглядаецца карысная тэндэнцыя рабіць іх шматгалосымі, спяваць акапэльна, узбуйняць колькасць харыстаў. Добра, што ў аматарскіх калектывах павялічваецца лік спевакоў. Але ўсё ж не хапае ў хорах мужчынскіх галасоў. Больш дасканалым стаў акампанемент хораў, якія спяваюць з суправаджэннем. Тлумачыцца гэта тым, што да работы з самадзейнасцю далучаюцца педагогі музычных школ і вучылішчаў.

Сярод лепшых гомельскіх калектываў такога напрамку я адзначыў бы вядомы ўжо многа год Азершчынскі народны хор, дзе зараз працуе кіраўніком малады і таленавіты хормайстар М. Ліўшыц, а таксама хор ансамбля дома культуры Рэчыцкага камбіната (кіраўнік П. Калеснікаў). Гэтыя калектывы вызначаюцца маляўнічасцю галасоў, свабодай вы-

І гэтак жа, як зайшоў, нячутна выйшаў. Неўзабаве з'явіўся, лёгенька, плячом, адхіліў мяне ўбок.

— Глыбей дыхайце, глыбей, — папрасіў ён і амаль з усяе сілы націснуў Ноне Аляксандраўне на падлыжачную вобласць. — Вось так!

Аж дрыжыкі мяне ўзялі.

— У гэтым месцы здараліся болі?

— Летась балела...

— Калега, усё будзе добра, — нарэшце сказаў стары ўрач і паклаў на балючае месца цёпленькую грэлку. Мы выйшлі.

Хадзілі-блукалі, раіліся, як нам быць далей. Я, вядома, вельмі хваляваўся, лічыў, што мы маем у наяўнасці «востры жывот» і што нам няма чаго цягнуць, а трэба хутчэй самалётам адправіць яе ў абласную бальніцу.

Галоўурач паблажліва мяне супакойваў, запэўніваў, што ўсё абыдзецца, і, як мне здавалася, чагосьці недагаворваў і быццам бы пасміхаўся сабе ў вусы.

— Дык вы лічыце, што я...

— Нічога я не лічу. Інспектарка ў нас урач, а, як вядома, ва ўсіх урачоў хваробы пачынаюцца не так, як у добрых людзей.

— Значыцца, «вострага жывата» тут няма? — здзівіўся я.

— Я займаюся ўрачэбнай практыкай сорак год. Можаце мне паверыць?

Уважліва паглядзеўшы на гэтага патрыярха сучаснай медыцыны, я адстаў, а пасля павярнуў на ганак.

— Адзін момант, — сказаў я і пабег адведаць інспектарку.

У кабінеце ўжо было змрочна.

— Уключыць святло?

— Не трэба, — заявіла яна катэгарычна. — Так лепш...

— Асмелюся запытацца, — лагодна пачаў я. — Мажліва, стала крышку лепей?

— Ды, ведаеце, нешта не магу разабрацца, — сказала яна і адразу замаўчала.

Я хуценька нахіліўся над ёю. Грэлка з'ехала набок, і я паправіў яе.

— Як цяпер?

— Значна лепш...

Як малы ўзрадаваўся я, што мая пацыентка пайшла на папраўку, накрываў прасцінёй і чамусьці ўвесь час натыкаўся на яе гарачыя рукі.

— Яшчэ крышку паляжыце спакойна і...

Сам выскачыў на двор пахваліцца галоўнаму ўрачу бальніцы, што сапраўды ўсё ідзе іменна так, як ён гаварыў. Незвычайная радасць ахапіла мяне, і я не ўтрымаўся, расказаў яшчэ яму аб праекце санаторыя, якім жыў усе гэтыя дні. Калега выслухаў уважліва, пазіраючы на мяне са здзіўленнем. Відаць, было, што ў яго вачах я значна вырас. Гаворка была доўгая, і мы б, напэўна, яшчэ гаманілі, але да прыёмнага пакоя ў гэты час падышла санітарная машына.

— Хворага прывезлі. Пайду, — сказаў галоўурач.

Я застаўся адзін. Адвячорак прыкметна ссінеў, на спалавеўшым небе сям-там высыпалі зоркі. Толькі цяпер я спахапіўся, што надоўга пакінуў адну Нону Аляксандраўну, і вырашыў тут жа сказаць ёй, што мой праект амаль гатовы і яна можа стаць яго сааўтарам. Во радасці будзе!

Можна сказаць, на пальчыках пераступіў я парог кабінета.

— Як цяпер у вас справы? — гаманіў я. — Хачу вам паведаміць, што праект...

У поцемках заплюскацела вада, і цераз увесь кабінет у мой бок штосьці з шумам паляцела, пляснулася каля дзвярэй, і тады я, нахіліўшыся, убачыў грэлку.

І яшчэ ўбачыў на фоне светлага акна, што Нона Аляксандраўна неяк вельмі жвава падхапілася з канапы і стала зашпільваць гузікі пінжака.

. . . . . . . . . . . . . . . .

Цяпер я галоўны ўрач кардыялагічнага санаторыя ў лесе на беразе ракі, якраз у тым цудоўным месцы, дзе мы ў той памятны сіні адвячорак гаварылі з Нонай Аляксандраўнай. Санаторый пабудаваны па маёй прапанове, але без яе сааўтарства. Ніколі больш яна не прыязджала правяраць маю работу, і да сённяшняга дня ніяк я не магу паверыць, што прычынай гэтаму была... грэлка.

Люты, 1966 г.

# НОВЫЯ НАЗВЫ НА АФІШАХ



Беларускі тэатр юнага гледача паказаў новы спектакль — «З любімымі не расставайцеся» А. Валодзіна (пераклад на беларускую мову А. Вольскага). Паставіў спектакль галоўны рэжысёр тэатра М. Шыйко ў дэкарацыях, зробленых па эскізах мастака Ю. Тура.

На здымку — сцэна са спектакля.



Прэм'ера адбылася ў Дзяржаўным тэатры музычнай камедыі БССР. Тут пастаўлена камедыя па п'есе Я. Зіскінда з музыкай І. Ільіна і С. Заслаўскага «Шчаслівы рэйс». Рэжысёр спектакля выпускнік Дзяржаўнага інстытута тэатральнага мастацтва імя А. Луначарскага Н. Пронін. Дырыжыруе спектаклем Э. Арашкевіч, танцы паставіў балетмайстар А. Кастрыцкі. Дэкарацыйнае афармленне Д. Краўчука.

На здымку — заслужаны артыст БССР В. Шаўкалюк (у ролі Бакрадзе) і актрыса А. Крайнікава (Кацюша).

Фота Ул. КРУКА.

# КІНО І МУЗЫКА

Чарговая «Музычная серада» была арганізавана Саюзам кампазітараў БССР сумесна з рэспубліканскім Домам мастацтваў. У пасяджэнні ўдзельнічалі кампазітары, музыказнаўцы, работнікі тэатраў, кіно, тэлебачання, радыё, прадстаўнікі грамадскасці. Тэма размовы — дакументальнае кіно і роля кампазітара ў ім.

Музычны рэдактар кінастудыі «Беларусьфільм» кампазітар Сяргей Картэс расказаў аб рабоце беларускіх кампазітараў у мастацкім і дакументальным кінематографе. Ён напомніў аб лепшых фільмах мінулых гадоў, аб удзеле ў іх беларускіх кампазітараў У. Алоўнікава, А. Багатырова, Д. Камінскага, Я. Глебава, Г. Вагнера, Ю. Семянякі, У. Чараднічэнкі і іншых. С. Картэс выказаў заклапочанасць тым, што ў апошнія гады старэйшыя кампазітары рэспублікі рэдка запрашаюцца да работы ў кіно.

Цікавая гутарка адбылася пасля прагляду фільма «Была вайна». Рэжысёр стужкі Ф. Хаджаеў гаварыў пра складаную і нялёгкую работу дакументалістаў, пра супрацоўніцтва з кампазітарам Б. Смольскім, які напісаў музыку да кінафільма. Кампазітар у сваю чаргу падзяліўся думкамі наконт работы над гэтай стужкай.

Старшыня Круглянскага райвыканкома А. Цітовіч расказаў аб дзейнасці ў гады Вялікай Айчыннай вайны на тэрыторыі раёна Героя Савецкага Саюза Мамадалі Тапывалдыева — героя фільма «Была вайна».

Удзельнікі «серады» прагледзелі фільм «Палескія калядкі» (сцэнарый З. Мажэйкі, рэжысёр Н. Сава) — пра народныя абрады, якія да гэтага часу існуюць на беларускім Палессі. Музыку да фільма напісаў кампазітар В. Войтак.

У заключэнне быў паказаны кінафільм «А зязюля кукавала...», прысвечаны народнаму песняру Беларусі Янку Купалу (сцэнарый А. Вялюгіна, рэжысёр В. Дашук, музыка кампазітара А. Янчанкі).

Гаворка была карыснай і для музыкантаў і для кінематаграфістаў.

# КАНЦЭРТЫ Ў ПОЛЬШЧЫ

З Польскай Народнай Рэспублікі вярнулася група беларускіх музыкантаў, якую ўзначальваў кампазітар, лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Ігар Лучанок. У яе складзе — спевакі: заслужаны артыст БССР Юрый Смірноў, лаўрэат ўсесаюзнага конкурсу Анатоль Падгайскі, салістка Беларускага радыё Любоў Каспарская, а таксама паэт Алесь Ставер.

Пасланцы беларускага мастацтва далі дзевятнаццаць канцэртаў.

канання , добрым адчуваннем спецыфікі харавога спявання, сапраўдным артыстызмам і непаўторным абліччам.

Безумоўна, найбольш прафесійна падрыхтаваны калектыў Гомельскага палаца культуры чыгуначнікаў імя Леніна (хормайстар М. Дымант). Вакальная культура яго стала вышэйшай. Хор мае багаты і разнастайны рэпертуар, значную колькасць удзельнікаў. Ён выконвае акапэльныя праграмы, спявае ў суправаджэнні інструментальнага ансамбля, выступае і як састаўная частка ансамбля песні і танца.

Да здабыткаў харавой культуры Гомельшчыны, якія нарадзіліся ў апошні час, трэба аднесці і ўзбагачэнне рэпертуару калектываў за кошт твораў братніх народаў. Калі раней тут гучала разам з беларускай творчасцю руская і ўкраінская, дык цяпер выконваюцца латышскія, эстонскія, грузінскія і іншыя харавыя партытуры з іх спецыфічнымі гармоніямі, яркімі рытмамі, паліфанічным расквечваннем. Мы ганарымся тым, што ў Лельчыцкім раёне існуе аб'яднаны беларуска-ўкраінскі хор Глушкавіцкага сельскага дома культуры (кіраўнік С. Драчэўскі), у якім прымаюць удзел аматары харавога спявання вёсак Копішча і Майдан-Капішчанскі Олеўскага раёна Украінскай ССР. Рэпертуар калектыву цалкам пабудаваны на творах трох братніх народаў — беларускага, рускага, украінскага. Вядомасць аб'яднанага хору перайшла межы сваіх раёнаў, Гомельшчыны. У сталіцы Беларусі гэты калектыў паспяхова выступаў на заключным канцэрце рэспубліканскага фестывалю мастацкай самадзейнасці, прысвечаным 50-годдзю ўтварэння СССР.

Аднак. дрэнна тое, што ў рэпертуары аматарскіх хораў не займае належнага месца харавая класіка. Выкарыстанне яе твораў у жывой практыцы дапамагло б не толькі зрабіць праграмы больш разнастайнымі і па-мастацку глыбокімі, але і павысіла б агульную харавую культуру, скажу больш, удасканаліла б авалоданне тэхналогіяй харавога спявання. На жаль, прафесійныя калектывы рэспублікі мала сустракаюцца з аматарамі харавога мастацтва ў сельскіх мясцовасцях і тым самым не прывіваюць любоў да музычнай класікі ўдзельнікам мастацкай самадзейнасці. Кожная праграма, складзеная з узораў народнай песні, лепшых сучасных твораў і выкананая перад сельскай або рабочай аўдыторыяй, з'яўляецца цудоўнай школай майстэрства для артыстаў-аматараў.

Блага і тое, што на месцах — у раённых дамах культуры, прафсаюзных і камсамольскіх арганізацыях не надаюць сістэматычнай увагі рабоце харавых калектываў. Таму некаторыя з іх «знікаюць». У многіх не на належным узроўні творчая дысцыпліна, аднастайны, нецікавы рэпертуар. Трэба дабіцца такога становішча, каб лепшыя па ідэйна-мастацкай вартасці сучасныя харавыя творы рабіліся здабыткамі ўсёй мастацкай самадзейнасці. Хацелася б, каб нашы зборнікі «У дапамогу мастацкай самадзейнасці», выпускаліся ў свет з каментарыямі майстроў харавой справы, адказвалі б на пытанні, як трэба выконваць той ці іншы твор, што змешчаны ў такім зборніку.

Думаю, што для ўдасканальвання харавой мастацкай самадзейнасці неабходна па прыкладу нашых суседзяў з Прыбалтыкі сістэматычна праводзіць у рэспубліцы святы песні. У Латвіі, Літве і Эстоніі яны праходзяць з вялікім масавым уздымам (у канцэртах удзельнічае па 25—30 тысяч спевакоў), здзіўляюць сваёй прыгажосцю і грандыёзнасцю. Да іх рыхтуюцца загадзя, за два — тры гады. Асаблівая ўвага звяртаецца на падрыхтоўку праграм для зводных калектываў — абласных і рэспубліканскіх, і на напісанне спецыяльных твораў. Усё гэта будзе садзейнічаць далейшаму станаўленню харавой культуры Беларусі.

Наяўнасць у рэспубліцы вялікай колькасці харавых калектываў і іх выканаўчая дзейнасць ставяць пытанне аб папаўненні нацыянальнага харавога рэпертуару, патрабуюць новых, разнастайных па тэматыцы музычных твораў. Спадзяёмся, што беларускія кампазітары напішуць яшчэ шмат яркіх харавых песень, у якіх загучыць найбольш актуальная тэма, тэма сучаснасці.

# ЯКАЯ ТЫ, МУЗЫКА?

*ТЭЛЕВІЗІЙНЫ ФІЛАРМАНІЧНЫ АБАНЕМЕНТ ДЛЯ ШКОЛЬНІКАЎ*



Хор з вёскі Тонеж.



Марыя Лось і Якаў Калеснік.
Фота Ул. КРУКА.

У ПРАГРАМАХ Беларускага тэлебачання з'явіўся цыкл перадач «Якая ты, музыка?» — своеасаблівы універсітэт культуры для школьнікаў. У тэатралізаванае прадстаўленне арганічна ўплятаюцца музыка, танцы, песні. Аўдыторыя гэтага цікава задуманага лекторыя — канцэртная зала філармоніі... і ўся рэспубліка, бо перадачы транслююцца па тэлебачанні.

У першай перадачы школьнікам расказалі, як трэба слухаць музыку, пазнаёмілі з яе жанрамі. Другая перадача была прысвечана старадаўняй музыцы: антычнай, сярэдніх вякоў, эпохі Адраджэння і да Баха ўключна. У перадачы прымаў удзел наш камерны аркестр, арганіст А. Янчанка, артысты мінскіх тэатраў, якія паказвалі сцэны з жыцця тых часоў.

І вось трэцяя сустрэча з дзядулем — прафесарам Калакольчыкавым (артыст Ул. Аляксееў), які вядзе гэтыя перадачы. Трэцяя перадача — «Казка пра спяваючую зямлю».

Ёсць у народзе легенда. Даўным даўно жыў на нашай зямлі жорсткі, люты пан. Людзі працавалі на яго ад цямна да цямна, а яму ўсё было мала... Выращыў ён аднойчы сам паглядзець, як працуюць сяляне. Пад'ехаў на ўскраек поля і чуе — гучыць песня: «Жніце, жнеечкі, жніце, ды на сонейка глядзіце. Сонейка зайшло, а мы ўсё жнём».

Разззлаваўся пан, кажуць, многіх сваіх людзей закатаваў да смерці, усё хацеў даведацца, хто склаў тую песню. Панскія паслугачы падказалі свайму ўладару, што жыве ў лесе дзіўны хлапчук-музыка. Як зайграе на дудачцы вясёлую «Лявоніху», здаецца, снапы на полі скачуць. А як заспявае песню сумную, нібы туман па зямлі сцелецца, сонца за хмарку хаваецца. Напэўна, той хлапчук і склаў песню жнеям.

І загадаў пан адшукаць малога музыку. Ідуць слугі дзень, два, тры. Нідзе няма хлапчука, а наўкола ўсё спявае, гамоніць. Прыклаў адзін з іх вуха да зямлі ды і кажа: «Браткі мае, дык гэта ж зямля спявае, зямля тут такая...».

— Зямля беларуская дала шмат цудоўных песень, нарадзіла многа выдатных музыкантаў,—гаворыць дзядуля.

Уважліва слухаюць яго казку дзеці. Гэта ўступ да перадачы. А далей гледачы знаёмяцца са шматколерным вянком беларускіх народных песень і танцаў. Чарадзейны камертон дзядулі робіць цуды. Узмахне ім дзядуля, і са смехам і жартамі на сцэне з'яўляецца натоўп калядоўшчыкаў і шчадроўшчыкаў — удзельнікі этнаграфічнага ансамбля Тонежскага сельскага дома культуры Лельчыцкага раёна і артысты Дзяржаўнага народнага хору БССР. Пачынаецца вясёлае калядаванне. Спяваюць звонкія напеўныя песні, водзяць «казу» і «мядзведзя».

Не ўпершыню выступаюць у Мінску тонежскія спевакі. Сярод іх — знакамітая спявачка Ганна Вянгура, песенны рэпертуар якой цэлая палеская гісторыя ў гуках. Цётка Ганна — душа ансамбля. У Мінск яна прыехала з унучкай Валяй Сакалоўскай, вучаніцай 7-га класа. Цікавым і запамінальным быў іх сумесны дуэт. Хто сказаў, што моладзь не вельмі хінецца да народных спеваў? Няпраўда гэта!

Хораша спяваў цудоўны дуэт Сцяпана і Марыі Дубейкі. Іх песні перапоўненая глядзельная зала сустрэла гарачымі воплескамі. Уразіў музычнасцю, стройнасцю гучання яшчэ адзін дуэт з вёскі Стадолічы Лельчыцкага раёна. Жартоўную песню спявалі бібліятэкар Марыя Лось і калгасны даяр Якаў Калеснік.

І як дарэчы ўпісалася ў праграму тэатралізаванае выкананне песні артыстамі народнага хору пад кіраўніцтвам Г. Цітовіча «Прадай, бабуленька, бычка». Песня запісана ў вёсцы Тонеж. Цікавыя песні праспявалі жаночая і мужчынская харавыя групы гэтага калектыву. З бляскам выканалі артысты «Лявоніху» (салісты Васіль Варановіч і Эмілія Суравіцкая). Славуты квартэт хору «Купалінка» задушэўна праспяваў песню «Ой рана на Івана».

У праграме гэтага тэатралізаванага філарманічнага канцэрта прынялі ўдзел тэатр тэлебачання «Батлейка» (артыст У. Таміла), народны ансамбль танца «Равеснік» Палаца культуры прафсаюзаў (мастацкі кіраўнік М. Бяльзацкая), хор хлопчыкаў сярэдняй спецыяльнай музычнай школы пры Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі (мастацкі кіраўнік І. Жураўленка). З цікавасцю слухаўся расказ народнага артыста СССР Генадзя Цітовіча пра яго шлях у песню, пра народны хор і вандроўкі калектыву па краіне і за мяжой.

— Калі падлічыць, колькі кіламетраў праехалі артысты Дзяржаўнага народнага хору БССР,—гаворыць Генадзь Іванавіч, — то атрымаецца, што, бадай, яны маглі б разоў пятнаццаць аб'ехаць па экватары нашу зямлю. Цяжка падлічыць, колькі на самай справе правёў на колах хор; паўмільёна кіламетраў ці меней. Але галоўнае, напэўна, гэта тое, што ўсе нашы вандроўкі былі кіламетрамі дружбы, цікавых сустрэч, творчых пошукаў. Наш калектыў выступаў ва ўсіх братніх рэспубліках СССР, у Польшчы, Венгрыі, Румыніі, Канадзе, у Францыі і іншых краінах. І ўсюды мы чулі: «Брава, беларусы!», усюды захапляліся і захапляюцца непаўторным хараством беларускай песні.

Застаецца дадаць, што падрыхтавалі гэтую цікавую перадачу рэжысёр Г. Пінігіна, рэдактар Б. Бахціяраў, аўтар сцэнарыя Г. Таўлай, мастак А. Шкаева.

Адно хацелася б адзначыць: надзвычай засмучала гледачоў у канцэрце «тэхніка». У першым аддзяленні дрэнна працавалі мікрафоны, і цяжка было разабраць, што чытаў і расказваў сваім юным сябрам дзядуля.

Наступныя перадачы з цыкла «Якая ты, музыка?» будуць прысвечаны оперы «Залаты пеўнік» Рымскага-Корсакова, затым — сімфанічнай музыцы.

**Д. КУДЗЕЛЬКА.**

# АДДАНАСЦЬ СКЛАДАНАМУ ЖАНРУ

ДЗЕСЯЦЬ гадоў працуе гэты арыгінальны творчы калектыў. Часам без умоў для рэпетыцый, без сістэматычных выступленняў перад аўдыторыяй. Але ўсе цяжкасці пераадольваюцца гарачым энтузіязмам і ўлюбёнасцю ў камерную музыку, жаданнем прапагандаваць яе сярод шырокіх колаў слухачоў. Мы гаворым пра струнны квартэт Саюза кампазітараў Беларусі, у якім іграюць Юрый Гершовіч і Павел Валадарскі (першая і другая скрыпкі), Вікторыя Баткіна (альт) і Мікалай Шчарбакоў (віяланчэль). Нядаўна гэты ансамбль даў свой юбілейны канцэрт. Аб уражаннях ад яго і пойдзе далей гаворка.

Два камерныя творы беларускіх кампазітараў і адзін класічны склалі праграму канцэрта, прычым квартэт № 2 Кіма Цесакова выконваўся наогул упершыню. Музыка гэтага твора не з'яўляецца адлюстраваннем нейкіх магутных жыццёвых калізій, высокіх пачуццяў. Яна не багатая і на шырокі, яркі меладызм, на ласкавыя для вуха тэмы. Але кожная з чатырох невялічкіх частак квартэта К. Цесакова прымушае нас верыць, што лірычны герой яго твора няспынна знаходзіцца ў пошуку свайго жыццёвага шляху, імкнецца да «зорнага часу», у самім сабе хоча пазнаць тое, што перашкаджае яму рухацца да запаветнай мары. Таму, відаць, столькі трывогі і няўстойлівасці гучанняў у першай частцы квартэта, пэўная «прывідлівасць» — у другой, затоены сум — у трэцяй (дарэчы, найбольш акрэслена нацыянальнай у своеасаблівым дуэце першай скрыпкі і альта), імклівы ўзлёт — у апошняй, дзе аўтар надаў партыі віяланчэлі сапраўды віртуозны характар. Акрамя таго, што сама музыка твора вабіць свежасцю, незвычайнасцю аўтарскага почырку, нельга не адзначыць высокі прафесійны ўзровень кампазітара ў выкарыстанні магчымасцей квартэтнага ансамбля. Адсюль і захапленне выканаўцаў вельмі складаным творам. Толькі хочацца параіць кампазітару К. Цесакову скараціць перапынкі паміж першымі трыма часткамі, каб яны гучалі злітна, бо тады больш «буйнымі» будуць і вобразы, і раскрыццё падзей у адзінай жыццёвай плыні...

**Калі квартэт № 2 К. Цесакова даў магчымасць струннаму ансамблю паказаць уменне за кароткі тэрмін памастацку «прачытаць» зусім новую партытуру і зрабіць яе прывабнай для слухачоў, дык квартэт № 2 Д. Камінскага, даўно ўжо рэпертуарны твор калектыву, неаднаразова выконваўся ім у розных аўдыторыях. Нагадаю, што музыка, не пазбаўленая тут добрага ўплыву творчасці Д. Кабалеўскага, вызначаецца прыгажосцю і ўсхваляванасцю тэм першай часткі твора, яркім гукапісам і дасканалым выкарыстаннем беларускіх народных мелодый у другой частцы, бліскучасцю скерцознага фіналу. Наогул квартэт Д. Камінскага напісаны з выдатным веданнем такога жанру і кампазітарскай вынаходлівасці.**

Гучанне двух твораў, якія выконваліся ў першым аддзяленні канцэрта, дазваляе меркаваць аб многіх вартасцях удзельнікаў квартэта. Усе яны, акрамя добра развітага «пачуцця локця», умення адчуваць і адказваць сваёй ігрой на кожны нюанс у партнёраў — рознабакова тэхнічна ўзброены, валодаюць інструментамі ў такой ступені, што складанасць партыі робіцца непрыкметнай.

У асобе Ю. Гершовіча ансамбль мае сапраўднага «важака», артыста яркага тэмпераменту, уладальніка вельмі прыгожага і вялікага гуку, скрыпача, імправізацыйны характар ігры якога добра падпарадкаваны логіцы развіцця музычных вобразаў. Пра ігру В. Баткінай хочацца перш за ўсё сказаць, што яна вызначаецца зграбнасцю і непасрэднасцю выказвання. П. Валадарскі і М. Шчарбакоў — артысты не такога рамантычнага складу, яны імкнуцца да большай стрыманасці пачуццяў, да гранічна дакладнага выканання таго, што прапануе партытура, да класічнага размежавання тэмпаў і рытмічнай строгасці. Менавіта такое спалучэнне артыстычных індывідуальнасцей і надае струннаму квартэту Саюза кампазітараў БССР мастацкую гнуткасць, поспех пры выкананні музыкі розных стыляў, творчых напрамкаў.

А што гэта сапраўды так, у канцэрце добра было відаць па другому аддзяленню, дзе выконваўся квартэт соль-мінор Э. Грыга — адзін з самых складаных у сусветнай музыцы камерны твор. Напісаны ён як своеасаблівы гімн мастацтву, які дапамагае чалавеку перамагчы трывогу, гора, сум. Лейттэмай квартэта з'яўляецца грыгаўская «Песня музыканта» на словы Генрыка Ібсена. Праз усю тканіну твора праходзяць таксама вобразы нарвежскіх народных лірычных і танцавальных мелодый. Чатыры часткі квартэта характэрныя шматлікімі рытмічнымі і тэмпавымі зрухамі, віртуознымі ўпрыгожваннямі, унісоннымі і актаўнымі гучаннямі, падвоенымі нотамі і іншымі выканаўчымі цяжкасцямі. Але, нягледзячы на гэта, ансамбль ярка і пластычна раскрыў змест твора, з бляскам правёў імклівую сальтарэлу фіналу.

**А зараз вернемся да «прозы». Ці можна згадзіцца з тым, што адзіны ў Беларусі прафесійны струнны квартэт фактычна не выкарыстоўваецца ў канцэртным жыцці рэспублікі? Тое, што ён лічыцца пры Саюзе кампазітараў БССР, не дае квартэту ніякіх правоў і абавязкаў. «Трымаецца» ён на энтузіязме, рыхтуе рэпертуар для «ўнутранага выкарыстання», чым дае магчымасць беларускім кампазітарам праверыць, як гучаць іх новыя партытуры. І гэта ў той час, калі ў рэпертуары ансамбля трыццаць пяць адных беларускіх квартэтаў, каля трыццаці класічных і буйнейшых сучасных кампазітараў краіны, а таксама шэраг твораў замежных аўтараў, не гаворачы пра невялічкія квартэтныя мініяцюры і акампанементы вакалістам. Дарэчы, Усесаюзная фірма «Мелодыя» выпусціла ў свет у выкананні калектыву грампласцінкі з запісам квартэтаў М. Аладава, І. Лучанка і А. Янчанкі, а ў нас названыя творы ў канцэртах чамусьці не гучаць.**

Думаецца, што струнны квартэт Саюза кампазітараў БССР зноў загучыць з эстрады, што яго будуць слухаць у розных гарадах рэспублікі аматары камернай музыкі, што ён плённа будзе прапагандаваць творчасць нашых кампазітараў і класічную спадчыну.

Права на гэта калектыў пацвярджае кожным выступленнем. Канцэртам аб якім мы расказалі, таксама.

**І. СЯЎКО.**




Алесь ЗВОНАК

# ГУСАК

**Гусак утрэскаўся ў стракатую цацарку.**
**(Як і ў жыцці, бывае ў байцы ўсяк!)**
**І хоць да ўзлётаў і не быў ён шпаркі,**
**А ўсё ж арлом сябе ўяўляў гусак.**
**Ды як на зло ў час летняга прыпарку**
**Арол сапраўдны (здарылася ж так!)**
**Прыбраў з двара прыгожую цацарку,**
**Пакуль драмаў разлапісты гусак.**
**Прачнуўся той, схапіў бляшанку з дзёгцем**
**І паляцеў з канца ў канец сяла**
**Перамываць сваёй каханцы косці**
**І заадно пачаў чарніць арла.**
**Але ніхто не чуў на свеце штосьці,**
**Каб стаў гусак арлом,**
**Хаця б ад злосці.**

*НІ ДАЦЬ, НІ ЎЗЯЦЬ*

Рыгор ЛАЗУРКІН

# РАЦЫЯНАЛІЗАЦЫЯ

Інжынер гаркамунгаса горада Пескадуева Антон Беленькі падаў арыгінальную па задуме рацыяналізатарскую прапанову. Ён прапанаваў перад надыходам маразоў тратуары і вуліцы горада паліваць вадой, каб, заледзянелыя, яны сталі коўзкімі, бы той каток. Што гэта дасць?

Па-першае — масавае развіццё канькабежнага спорту. На спартыўным небасхіле пескадуеўцаў павінна ўзысці многа зорак —майстроў фігурнага катання. Пра іх загаворыць уся краіна. Нават дзядулі і бабулі, якія ўжо забыліся пра ледзяную дарожку, цяпер успомняць яе і стануць на канькі. Гэта дасць магчымасць праводзіць спаборніцтвы не толькі сярод моладзі, але і сярод старых—малодшага і старэйшага ўзросту.

Разам з тым, стаўшы на канькі, пескадуеўцы не будуць усю зіму мець патрэбу ў гарадскім транспарце. Не будзе і ніякіх скаргаў... А яшчэ — ачысціцца паветра. Знікне загазаванасць вуліц... Вунь якія выгоды!

І — апошняе (а для інжынера Беленькага гэта — галоўнае): не трэба будзе пасыпаць вуліцы пяском.

Мкртыч АРМЕН

## ПРА ТАЛЕНТ

*Яго яркі талент настолькі сляпіў людзей, што яны не бачылі нічога, у тым ліку і яго таленту.*

□

*Для выяўлення свайго таленту яму патрэбен быў таксама талент — а гэтага ён ужо не меў.*

□

*Ён настолькі верыў у свой талент, што лічыў непатрэбным яго даводзіць пісаннем кніг.*

□

*— Ты сярод нас—адзіны талент,— сказалі яму. І ён з сумам пайшоў. Бо яны былі — геніі.*

## ПРА СЦІПЛАСЦЬ

*Ад сціпласці ён заўсёды заставаўся ў ценю. І нават у самую спякоту ні на хвіліну не саступаў сваё месца іншым.*

□

*— Слухайце, малады чалавек, вы яшчэ не надта вялікі пісьменнік, каб паводзіць сябе так сціпла.*

□

*Лісты ў розныя інстанцыі ён не падпісваў, бо быў вельмі сціплы, а людзі лічылі яго ананімшчыкам.*

Пераклаў з армянскай А. ГАБРЫЭЛЯН.

*А ТЫ АДКУЛЕЧКА, ПРЫЯЦЕЛЬ?*




Я. ІВАНОЎ

**Ц**ІХАН Крупняк прытаіўся ў густым лазняку і, баючыся нават варухнуцца, адчуваючы толькі трывожнае біццё ўжо немаладога сэрца, слухаў: усяго ў якіх трох кроках ад яго, на стромістым беразе ракі, сядзела вакол вогнішча трое мужчын. Узрушана гутарылі. Ціхан Крупняк да таго выразна бачыў гнеўныя твары, злавесна асветленыя ў начной цемры чырванню полымя, што ў яго ўжо не заставалася ніякага сумнення: старыя знаёмыя...

**Першы** (з суровай рашучасцю, раз'юшана кідаючы ў агонь смалякі). Калі б я зараз сустрэў гэтага Крупняка — без ваганняў адправіў бы на той свет! Ён мне ўсё жыццё сапсаваў... Ну добра, хай я рос без бацькоў, хай гуляў у карты з хлопцамі і кінуў школу... Чаго не бывае ў маладосці! Дай жа мне самому разабрацца ў сваім жыцці, не рабі з мяне злачынцу... Дык не, па яго ж волі трапляю ў турму. Не паспяваю выйсці, сям'ёй абзавесціся, чалавекам сябе адчуць, зноў уцягвае ў афёру. І так — бясконца. Нарэшце, нават нацкоўвае мяне на цёшчу, і я за недапечаныя бліцы забіваю яе. Хто ж гэткае даруе!

**Другі** (спачувальна і скрушліва). І ўсё ж твой жыццёвы шлях, браток, куды лягчэй майго... У цябе ўсё прасцей: злачынства — турма... А паспрабуй пажыць у маёй скуры Дон-Жуана! Паспрабуй пяць разоў ажаніцца і пяць разоў развесціся! Чаго хіхікаеш? Думаеш, мне так ужо і прыемна, такая ўжо і асалода? Ты зірні, на каго я стаў падобны: форменны шымпанзе, твар як печаны яблык, на галаве ні валасіны, рукі трасуцца... І ўсё па міласці гэтага бессардэчнага Ціхана Крупняка. Падсоўвае і падсоўвае мне маладзіц — яму абавязкова трэба, каб мяне цягалі ды разбіралі па таварыскіх судах. Страшэнны эгаіст! Прызнаюся табе шчыра: і ў мяне рука не задрыжыць, калі сустрэнуся з ім... У гэтага ж чалавека ніякага сумлення. Цяпер вось у бальніцы я — вядома, пенсіянер! Дык ён і там не пакідае: семнаццацігадовая сястрыца ў палаце з'явілася... І такую падабраў, свіння, вачэй ад яе не адвядзеш: чарнавокая, танклявая бы чарацінка, косы тугія... Адным словам, Нефярціці! (Падазраю, сам ён па вушы ў яе закаханы). Ну, а я... што я? Ужо заляцаўся па-старэчаму, кхы, кхы... Адчуваю — уліп. Ажэніць!

**Трэці** (п'яна рагоча). Ха-ха-ха...

**Другі** (пакрыўджана і плаксіва). Чаго рагочаш, п'яная морда? Тут трагедыя... Насілле... Куды мне гнілому пню, жаніцца, а? Пасля гэтай жаніцьбы адна дарога — у вар'яцкі дом... І ён такі мяне ўпячэ туды, упячэ!

**Трэці.** Нічога, стары... Мне яшчэ цяжэй: які год з выцвярэзніка не вылажу! Не паспею на работу выйсці, тое-сёе зарабіць, а ён мяне, гэты Крупняк, у рэстаран ужо валачэ-штурхае або сябрукоў падсылае з бутэлькай... Вось я і гатовы! І што цікава, сам сабе брыдкі, не кажучы пра людзей, а яму—падабаюся! Ніяк не адвяжацца... Ужо нейкую багатую цётку мне адшукаў: памерла і спадчыну пакінула пляменніку... Эх, атрымаю яе і зусім сап'юся! Хай радуецца, калі яму, людаеду, усё мала.

**Першы** (насцярожана). Цішэй! Нехта ў кустах шамаціць... Падслухоўвае, гад! Чакайце, зараз я яго правучу... Усё роўна турма!

Ціхан Крупняк жахліва ўціскае твар у нешта мяккае і мычыць, енчыць бездапаможна... Усё, капцы! Ад гэтага бандзюгі (о, ён добра ведае яго!) літасці не будзе...

— Ратуйце, — дзіка крычыць ён, не вытрымаўшы.

— Сціхні, вар'ят! Чаго ты гарланіш?

І — моцны штуршок у бок... Ад болі Крупняк расплюшчвае вочы і сам сабе не верыць: жонка!

— Нагаблюе гэтых эпічных раманаў, навыдумляе нямаведама якіх герояў, — ледзь не плача яна, — а потым усю ноч трызніць, спаць не дае...

А. МАХНАЧ

### КАШТОЎНАЯ ПАРАДА

Пячкур, верхаводка і ёрш добра бяруцца на кетавую ікру.

Перад лоўляй гэтай рыбы трэба на працягу тыдня (раніцою і вечарам) ікру раскідваць буйнымі порцыямі ў месцах намечанай рыбалкі.

Такім спосабам вопытным рыбаловам-аматарам падчас удавалася **за дзень** вывудзіць да **паўтара дзесятка самых буйных** яршоў.

### ЛЕПШ НЕ ПРЫДУМАЕШ!

На пытанне «Як прайшла ваша чарговая паездка на рыбалку?» грамадзянін Бледнаёршыкаў адказаў:

— Вельмі добра! Гарэлкі і закускі было хоць адбаўляй! Нават і сягоння яшчэ галава трашчыць ад болю, нібыта яе абухом калоцяць.

*ПА СВЕТУ ДОБРА ПАХАДЗІЎШЫ...*

Фрыц ЭРПЕНБЕК

# АБ РЭПУНСАЦЫІ

У Вільгельмсгафене мы вынайшлі пацешную гульню, якая прынесла нам вялікае задавальненне. Трэба выдумаць замежнае слова. Сапраўды, чаму б яго не прыдумаць? Стварыў жа нехта словы «экспанат» і «спецыфіка». Мы стварылі слова «рэпунсаваць».

На рэпетыцыі, якая надта зацягвалася, артыст Вернер Хінц спытаў рэжысёра: «Ці не маглі б мы крыху парэпунсаваць?» І той адказаў: «Прагонім яшчэ вось гэтую кароткую сцэнку, і тады я ўсё роўна збіраюся наладзіць перапынак».

Перад абедам мы сустрэлі вядомага гандляра, даволі тоўстага пана. «Ну, як ваш рэпунс?» — спытаў яго акцёр Марквард. — «Дзякуй! Куды лепш з таго часу, як я рэгулярна прымаю фруктан».

У рэстаране Томас звярнуўся да новай афіцыянткі: «Скажыце, калі ласка, дзе тут можна парэпунсаваць?» Яна, ніколькі не разгубіўшыся, паказала на дзверы з літарай «М».

Да нашага стала падышоў дырэктар рэстарана. Артыстка Гізэ спытала яго: «Вы можаце парэкамендаваць які-небудзь асаблівы рэпунсэс?» — «Вядома, у нас сёння ў меню рэдкая страва — чарапахавы суп».

Да нас падсела новенькая, надта манерная артыстка. Вернер Хінц нахіліўся да яе і шапнуў: «Дзетка, парэпунсуем сёння вечарком? Я быў бы шчаслівы...» — «Гэта нахабства!» — усклікнула яна і перасела за іншы стол.

«Ах, фройляйн фон Остэрбург — Томас пакланіўся дачцы дырэктара верфі. — Вы сёння раніцой ужо рэпунсавалі?» — «Не, сёння давялося адмовіцца ад прагулкі — было занадта холадна».

Падышла суфлёрка. Геда Цынер з дакорам сказала: «Твой рэпунсаж быў сёння нікуды не варты». Тая сярдзіта запярэчыла: «Вучы сваю ролю лепей, я зрабіла ўсё, што магла».

Да нашай гутаркі пачаў прыслухоўвацца тэатральны крытык, які сядзеў за суседнім сталом. Бішаф заўважыў гэта і ўставіў фразу: «Вядома, у маналог Майзекена я мог бы ўкласці больш рэпунсіі, але тэкст гэтага не дазваляе. Сапраўднай рэпунсіі можна дамагчыся толькі тады, калі роля дае хоць некалькі адпраўных момантаў». Крытык глыбакадумна кіўнуў. «Так, так, я таму і пішу, — прамовіў ён, — што дыялогі гэтай п'есы занадта павярхоўныя».

Мы паклікалі дырэктара: «Нам час ужо рэпунсаваць!» — «Эма зараз падасць рахунак».

І гэтак далей, у тым жа стылі. Паспрабуйце самі — вынайдзіце любое «замежнае» слова. Дарэчы, у Германіі знойдзецца вельмі мала людзей, якія шчыра б спыталі: «Рэпунсаваць? Ніколі не чуў! А што гэта такое?»

Пераклад з нямецкай мовы.


Па тэхнічных умовах унутраныя восем старонак газеты друкуюцца і выпускаюцца асобна ад васьмі знешніх. Атрымаўшы або набыўшы газету, укладзіце ўнутраныя аркушы ў знешнія.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць па пятніцах на шаснаццаці старонках.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Індэкс 63856 АТ 05539

Адрас рэдакцыі: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі—33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара—33-25-25, адказнага сакратара—33-44-04, аддзела літаратуры — 33-22-04, аддзела тэатра, кіно і музыкі — 33-24-62, аддзела выяўленчага мастацтва, архітэктуры і вытворчай эстэтыкі — 33-24-62, аддзела публіцыстыкі — 33-21-53, аддзела культуры — 33-24-62, выдавецтва —32-22-19, бухгалтэрыі — 32-15-87.

Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.